# Бунт на БТ узьняў прафсаюз

**27 ліпеня, на Дзень Незалежнасьці, прафбюро Дырэкцыі пэрспэктыўнага вяшчаньня 1-га нацыянальнага тэлеканалу, у якую ўваходзяць практычна ўсе творчыя супрацоўнікі БТ, адзінагалосна прыняло адкрыты зварот да новага кіраўніка Валер'я Скварцова.**

Супрацоўнікі скардзяцца, што за гэты год адбылося разбурэньне тэлебачаньня. З экрану беспадстаўна зьнікаюць сацыяльна-эканамічныя, мастацка-асьветніцкія, моладзевыя й дзіцячыя праграмы. Этэрны час БТ перадае недзяржаўным кампаніям, якім плоціць вялізныя грошы. Новыя ідэі супрацоўнікаў крадуцца. Так, ідэя аўтарскай праграмы Людмілы Мельнікавай "Час прафэсіянала" зь ведама Чыкіна была перададзеная блізкай да яго асобе.

Тэлевізыйшчыкі выказваюць недавер намесьніку Скварцова Рыбакову, генпрад'юсэру Хрусталёву й гендырэктару БТ Дамарацкаму, прапануюць дэмакратычна абраць мастацкую раду і праверыць фінансавыя адносіны кіраўніцтва зь недзяржаўнымі кампаніямі.

**Арцём Лук'яновіч**

## Дзе варта быць




### Фота з кампутару

**У памяшканьні менскага Літаратурнага музэю, што ў Траецкім прадмесьці, ідзе выстава нямецкага фатографа Ёрга Айднэра.** Спэцыялізуецца мастак на кампутарным (апрацаваным) фота. Сярод ягоных працаў ёсьць і беларускія краявіды.

### Найноўшая гісторыя ў кіно

**1 жніўня ў Менску адкрыецца фэстываль дакумэнтальнага кіно "Адзін сьвет".** У праграме 13 фільмаў, зьнятых эстонскімі, галяндзкімі, ангельскімі ды інш. рэжысэрамі.



Стужкі прысьвечаныя пераломным момантам сучаснай гісторыі – ад Чачэніі да югаслаўскіх падзеяў. Чэскі фільм "Беларусь у цяню Сталіна" расказвае пра лёсы зьніклых беларускіх палітыкаў. У праграму ўключаны і "Звычайны прэзыдэнт" Ю.Хашчавацкага. Паказы пройдуць у Доме літаратара (Фрунзэ, 5).

**Дзяніс Носаў**

# Палітыкі зь сіламі

Працяг са старонкі 1.

Па іроніі лёсу, якраз яго "пяцёрка" зрабіла гэтым чацьвертым, дублёрам Ганчарыка.

Ці ня ўсе іншыя кандыдаты прысягаюць, што сабралі па 80—90 тыс. подпісаў на сваю карысьць. Гэта падазрона. Ведаючы, што гэтая інфармацыя ня будзе праўраца, бо патрэбнай іх колькасьці галасоў прэтэндэнт так і так не набраў... Ці не падаў хто зь іх ліпавых подпісаў, каб зрабіць лепшую міну пры зусім абы-якой гульні?

Па сабраных подпісах можна меркаваць пра рэальны ўплыў тае ці іншае палітычнае сілы. Партыя ўлады застаецца па-за канкурэнцыяй па сваіх арганізацыйных здольнасьцях.


С.Домаш

Зь іншых сілаў найлепш паказала сябе кааліцыя недзяржаўных суполак незалежніцкага характару, традыцыйна званая "незалежным беларускім грамадзтвам", якая згуртавалася вакол Домаша.

Домаш стаўся адзіным, акрамя Лукашэнкі, кандыдатам, вынікі збору подпісаў за якога больш-менш роўныя па ўсёй Рэспубліцы. Трохі болей на Гарадзеншчыне (27 тыс.) і ў Менску (31 тыс.), трохі меней на Магілёўшчыне (15 тыс.). Сярэднія лічбы на Берасьцейшчыне (24 тыс.), Гомельшчыне (23 тыс.), Меншчыне (21 тыс.) і Віцебшчыне (20 тыс.). Цікава, што ў краіне ўсяго 29 (са 116) раёнаў, дзе Домаш не сабраў ніводнага подпісу. 8 такіх — на Меншчыне (чамусьці такія нацыяналістычна настроеныя рэгіёны, як Мядзел, Валожын, Капыль, Стоўпцы, Беразіно, Любань, Смалявічы, Старыя Дарогі). 6 — на Гомельшчыне (Брагін, Ветка, Ельск, Нароўля, Хойнікі, Карма — усё спрэс чарнобыльскія раёны, куды ідзе найбольш заходняй гуманітарнай дапамогі і дзе актыўна дзейнічае Фонд Грушавога). 9 — на Магілёўшчыне (Быхаў, Глуск, Касьцюковічы, Старцы (Кіраўск), Клімавічы, Краснапольле, Чэрыкаў, Круглае, Хоцімск — ізноў жа пераважна пацярпелыя ад радыяцыі раёны). 4 — на Віцебшчыне (Лепель, Докшыцы, Расоны, Сянно). 2 на Гарадзеншчыне (багатыя і традыцыйна пазьнякоўскія Карэлічы, Іўе). Ніводнага тагога раёну на Берасьцейшчыне.

Каб прыйшоў Домаш да згоды з Пазьняком і Грушавым, лічба сабраных ім галасоў магла б быць большай яшчэ на паўсотні тысячаў. (Хоць палітычная мляўасьць раёнаў, што сядзяць на іголцы замежнае гуманітарнае дапамогі відавочная. Там зусім мала набралі і Пазьняк (3,5 тыс. подпісаў тамсама), і Ганчарык (4,8 тыс. на Гомельшчыне), і падтрыманы Грушавым Казлоўскі (2,5 тыс. на Магілёўшчыне). Дзе не працуюць на сябе, там не абараняюць і сваіх інтарэсаў.)

Найболей галасоў Домаш сабраў у Бярозе, Ганцавічах, Дарагічыне, Івацэвічах на Берасьцейшчыне; Магілёве і Крычаве на Магілёўшчыне; Жлобіне, Рагачове і ў самім Гомлі на Гомельшчыне; Воранаве, Дзятлаве, Смургонях, Шчучыне, Ваўкавыску, самой Горадні на Гарадзеншчыне; Наваполацку, Воршы, Талачыне, Паставах на Віцебшчыне; Барысаве, Жодзіне, Клецку, Вялейцы на Меншчыне.

За Гайдукевічам стаіць Лібэральна-дэмакратычная партыя і, кажуць, "шэры" бізнэс. Колькасьць сабраных за яго подпісаў на ўсходзе Рэспублікі большая, чым на захадзе. Крыніцы ў Адміністрацыі прэзыдэнта не выключаюць, што кандыдат Гайдукевіч можа не дайсьці да фінішу прэзыдэнцкае гонкі.


У.Ганчарык

Улоў Ганчарыка небагаты, калі ўлічыць, што ў Фэдэрацыі прафсаюзаў мільёны фармальных сяброў. Зусім мала подпісаў сабрала ягоная каманда на Гомельшчыне і Гарадзеншчыне, затое выйшла на першае месца сярод дэмакратаў на Берасьцейшчыне. Праўда, у штабе Ганчарыка сьцьвярджаюць, што ўсяго за лідэра прафсаюзаў сабралі 216 тыс. подпісаў, але здалі толькі неабходны мінімум правераных.

Кампанія збору подпісаў вывела ў буйную палітыку іншага прафсаюзнага лідэра, Аляксандра Ярашука. У гэтага ўраджэнца Камянеччыны 76 тыс. подпісаў, і ён мае ўсе шанцы стаць значнай фігурай палітычнай сцэны на пяць наступных гадоў.

А вось зоркі Казлоўскага, Чыгіра, Марыніча гаснуць. Чыгір, відаць, так і застанецца ў энцыкляпэдыях "беларускім палітыкам канца XX ст." У апазыцыйным лягеры згадка пра іх будзе выклікаць лёгкае раздражненьне: разрадзілі дэмакратаў і ўкралі газэтную плошчу ў мацнейшых кандыдатаў.


С.Гайдукевіч і Г.-Г. Вік

Буйныя бізнэсмэны заслужылі прызнаньне ўладаў сваёй адмовай падтрымаць правых і дэмакратычных кандыдатаў. Тым самым яны зьвязалі свой лёс з Лукашэнкам. Праваслаўныя паказалі мускулы вылучэньнем дырэктара Калугіна, за якога хоцькі-няхоцькі зьбіралі подпісы работнікі ягонага заводу халадзільнікаў.

Беларускамоўным баліць правал Пазьняка. Нават працаўнікам шкада ягонага выхаду з гонкі. Незалежнікі застаюцца нібы біз голасу на гэтых выбарах. Бяздарна, без агеньчыку праведзеная кампанія наскрэбла 75 тыс. подпісаў, замест 104-х, дэклараваных Папковым. Цяпер тэлефон прэсавага сакратара партыі, Валер'я Буйвала, безнадзейна маўчыць.

Вось каб Пазьняк стварыў моцную правую кааліцыю... Аднак гэтага з эміграцыі ня зробіш. Відаць, час ягонага палітычнага занепаду стане аднасчасова парою шырокага прызнаньня ягоных заслуг перад Беларусяй.

Выявілася, што штаб толькі аднаго кандыдата ў працэсе збору подпісаў не завышаў іх колькасьці — Домашаў. Сумленнасьць заўсёды зьвяртае на сябе ўвагу ў мутнай вадзе постсавецкае палітыкі. Выбарцы гэта яшчэ ацэняць.

**Мікола**

### Плешчанка за байкот

**"Сьвядомаму беларусу 9 верасьня галасаваць няма за каго!" — заявіў старшыня віцебскай суполкі партыі хрысьціянскіх кансэрватараў Уладзімер Плешчанка ў сваім звароце да жыхароў Віцебску.** Плешчанка кажа, што Ганчарык – намэнклятурны кандыдат, якога падтрымлівае Расея, і сьвядомаму беларусу брацъ удзел у намэнклятурнай мітусьні ня варта. "Сёньня ў нас няма іншага выбару, акрамя як не прызнаць гэтых выбараў... Не – выбарам з удзелам Лукашэнкі!" – гаворыцца ў звароце.

**Паводле БелаПАН**

## Навіны гаспадарскія

# Беларусь скупіла ўсё расейскае золата

**За першую палову году валавы ўнутраны прадукт Беларусі вырас на 3%**, экспарт — на 6,2%, вытворчасьць сельгаспрадукцыі — на 6,9%, грашовыя даходы насельніцтва — на 21%. Аднак меншай, чым спадзяваліся, выявілася вытворчасьць прамысловай прадукцыі і спажывецкіх тавараў, а паказьнікі будаўніцтва, замежнага гандлю і абнаўленьня асноўных фондаў увогуле зьнізіліся. Не дабралі і 1% сродкаў у агульны бюджэт. Асабліва цяжка зь пералічэньнямі ў рэспубліканскі бюджэт (97,2% ад пляну), а таксама ў рэгіянальныя бюджэты Віцебшчыны (98,3%) ды Магілёўшчыны (92,1%). Найбольшыя запазычанасьці, як сьцьвярджае падатковы камітэт, у Менскага трактарнага, Менскага маторнага, Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага заводаў і Бабруйскага заводу трактарных агрэгатаў.

Маскоўская прэса піша, што Нацбанк Беларусі запрапанаваў вышэйшую, у параўнаньні з расейскім Цэнтрабанкам, цану за каштоўныя мэталы і ў выніку атрымаў 96,5% усяго золата, здабытага летась у Расеі. Цяпер Цэнтрабанк вінаваціць Беларусь у спэкуляцыйных апэрацыях. Афіцыйнага адказу беларускага Нацбанку пакуль няма.

А беларускі малы і сярэдні бізнэс атрымае палёгку. Мала таго, што апошні тэрмін перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадараньня перанесены на наступнае лета, дык яшчэ, нібыта, і льготныя падаткі на прыбытак для прадпрымальнікаў увядуць: у першы год — на 50% меншыя, у другі — на 40%, трэці — 30%, чацьверты — 20% і, нарэшце, пяты год — на 10%.

Да 1 лістапада 2002 г. скончыцца рэканструкцыя Менскай кальцавой дарогі. Яна будзе мець 6 палосаў, адмысловыя падземельныя пераходы для пешаходаў і застанецца ўвогуле без сьветлафораў. Цяпер урад і Менгарвыканкам тэрмінова шукаюць грошы, каб ужо сёлета пакласьці 320 тысяч тонаў асфальту на 28 км трасы.

**Сяржук Іваноўскі**

# Зьезд артадаксальных рамантыкаў

## *Моладзь авацыяй сустрэла словы Домаша "Беларусь можа трапіць у рукі няўмелага ганчара"*

Працяг са старонкі 1.

Кангрэс мусіў "зацьвердзіць" Ганчарыка ў якасьці адзінага кандыдата і выпрацаваць стратэгію перадвыбарчай кампаніі.

У залі ўдзельнікаў па-дыджэйску вітаў лідэр МФ Севярынец: кожныя пяць хвілінаў крычаў "Жыве Беларусь!", "Моладзь за Беларусь!", аж вушы закладала.

У фае працавалі так званыя *work-shop*'ы: інструктары МФ і "Супольнасьці" вучылі будучых "мабілізатараў" правільна ўзьдзейнічаць на электарат. Мастачка Лія Кійко малявала ўсім ахвотным фарбай на біцэпсах, трыцэпсах, далонях і паголеных патыліцах лёзунгі мабілізацыйнай кампаніі "Зрабі прэзыдэнта" і "Горад — наш".

Урачыстая частка распачалася гімнам "Магутны Божа". Адчувалася, што з прысутных у залі мала хто ведае словы.

Сярод моладзі былі заўважаныя Ю.Хашчавацкі, А.Трусаў, А.Грыцкевіч, В.Вячорка, Р.Кійко, Г.Быкаў, В.Сіўчык, І.Саверчанка. Трусаў, як заўсёды, у сваім выступе адзначыў, што яшчэ 30 гадоў таму на людзей, якія гаварылі ў трамваі і мэтро па-беларуску глядзелі з падазрэньнем. (Менскае мэтро было пабудаванае ў 1984 г.). Ён азвучыў расейскамоўных кандыдатаў-дэмакратаў, абрынуўся з крытыкай на небеларускі "Зубр" і прапанаваў байкатаваць расейскую прадукцыю. Нехта з залі нясьмела запытаў: "А як быць зь півам "Балтыка"?" — "І піва таксама!" — рашуча адрэзаў лідэр ТБМ.

Уладзімер Ганчарык зьвярнуўся да дэлегатаў на чыстай беларускай мове. У сваім выступе цяперашні адзіны кандыдат заклікаў усіх незадаволеных рашэньнем пяцёркі аб'ядноўвацца: "Трэба разам змагацца за незалежную Беларусь, якая стане эўрапейскай краінай, у якой ніколі ня будзе эскадронаў сьмерці". Ён паабяцаў, што ў новай Беларусі вялікая ўвага будзе надавацца нацыянальным каштоўнасьцям, культуры і ў такой краіне Васіль Быкаў ня будзе абвешчаны паліцаем ад літаратуры.

Некалькі дзясяткаў чалавек рынуліся да Ганчарыка па аўтографы, і не адпускалі яго хвілінаў пятнаццаць. Ганчарык спадабаўся. Лёгка ўскочыў на трыбуну, гаварыў упэўнена, рухаўся натуральна.

Дзьвюхгадзінны абед, які складаўся з порцыі бульбы з парай сасісак і салацікам, аздобілі безвыніковыя пошукі бомбы ў памяшканьні ДК і настройка апаратуры гурту NRM, канцэрт якога мусіў адбыцца па сканчэньні зьезду.

Па абедзе выступаў Сямён Домаш. Калі ён ішоў да трыбуны, заля ўстала і авацыямі сустрэла кандыдата цэнтраправіцы. Домаш паўтары гадзіны таму прыляцеў зь Цюмені, куды яго запрашала мясцовая беларуская дыяспара. Ён адзначыў, што сапраўдная бомба закладзеная ня тут, а ў Адміністрацыі прэзыдэнта, і яна абавязкова выбухне. Ягоная прамова была перасыпаная цытатамі: "Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей Сэрцы цьвёрдыя, быццам з каменьня", "Ці жыць у шчасьці, ці галаву скласьці". Пасьля цытаты "Беларусь можа трапіць у рукі няўмелага ганчара", дэлегаты зараўлі "Домаш, а не Ганчарык". Але Домаш хітра пасьміхнуўся і папрасіў падтрымаць адзінага кандыдата, выгнаўшы ў верасьні з панадворку ліхадзеяў сваёй гадоўлі і чужых прыхвасьняў. Пад гул авацый Домаш спусьціўся са сцэны. Аматараў аўтаграфаў адцясьніла імправізаваная ахова.

З астатніх выступоўцаў запомніўся толькі Сяржук Высоцкі, афіцыйны лідэр БПС, які выйшаў на трыбуну з уласным ахоўнікам і заклікаў беларусаў быць больш нацыяналістычнымі, фанатычнымі і ўтрапёнымі.

Моладзь прагне перамены і хоча працаваць. Хочам, можам, пераможам! Але моладзь кепска разумее драматызм сёньняшняе сытуацыі. Пляскала Ганчарыку, уставаньнем эўфарычна вітала Домаша. А надызе 10-га верасьня, і што потым? Ніхто на зьезьдзе пра гэта, ясная рэч, не казаў. І мо нават і ня думаў. Зрэшты, што загадваць на будучыню, калі табе 17, а на тваіх плячах – цэлая Беларусь і цэлая прэзыдэнцкая кампанія?

**Эдвард Людовіч**

# Лета палітычных канцэртаў

## Дом наш Бангалор

**Апошнім часам жыхары прылеглых да парку Дружбы народаў шматпавярховікаў воляй-няволяй далучаюцца да палітычнага жыцьця сталіцы.**

Менавіта тут, у менскай апазыцыйнай рэзэрвацыі, на паляне паміж плошчай Бангалор і аўтастанцыяй Кульман, праходзяць акцыі дэмакратычнага руху. Вось і 27 ліпеня, у чарговую гадавіну абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі, тут адбыўся рок-канцэрт "Пабудуем Дом наш — Беларусь". У фармальна мабілізацыйнай назьве выразна праглядаліся палітычныя сымпатыі арганізатараў, і таму рэдкія прамовы, экспромты вядоўцы і бітлаўскае *"Come Together"*, якое ў выкананьні "Крамы" замянілася вышэйпазначаным слоганам, гучалі з дамешкам нікаватасьці. Тут жа на месцы з кардонных скрыняў была складзеная канструкцыя, абклееная разнастайнымі налепкамі "Выбірай", якая і мусіла ўвасабляць Дом наш — Беларусь. Хісткае збудаваньне нёкалькі разоў разбуралі міліцыянты, але яно з такой лёгкасьцю адбудоўвалася наноў, што гэта выглядала нават сымбалічна. Увогуле, людзі ў форме паводзіліся



IREX-PROMEDIA

збольшага малаагрэсіўна: абыякава размаўлялі наводдаль з абуранымі тубыльцамі Бангалору, калматым гадаванцам якіх беларуская апазыцыя ў чарговы раз перашкодзіла справіць свае натуральныя патрэбы, ды сядзелі па аўтобусах за станцыяй Кульман. А моладзь, значная частка якой з-за свайго занадта маладога веку ня змогла сёлета прагаласаваць нават за Ганчарыка, танчыла і падкрыкавала ўлюбёным гуртам, сярод якіх былі "Уліс", "Zet" ды "NRM", што гралі, як заўсёды, файна. Аднак, арганізатары канцэрту відавочна чакалі нечага большага... "Нас сабралося тут пяць тысяч, — заявіў вядоўца, памылкова ўжыўшы выраз не ва ўмоўным ладзе, разыгрываючы чарговыя майкі-выбірайкі. — Гэта значыць, як мінімум 2500 параў. І ўсе яны сальюцца ў адным пацалунку — пацалунку свабоды..." Але публіка няблага пачувалася й без такога кшталту экспэрымэнтаў, нягледзячы на адносна невялікую колькасьць спажытых слабаалкагольных напояў... Мерапрыемства атрымалася як канцэрт, аднак як палітычная акцыя эфэкт мела мінімальны. На тое і Бангалор.

**Андрэй Чык**

### Алезіс адужаў

**У апошнюю ноч сёлетняга Басовішча невядомыя моцна зьбілі бубнача NRM Алега Дземідовіча.** Нейкі час пасьля таго ён знаходзіўся ў беларускай рэанімацыі. Цяпер стан здароўя Алезіса па-за пагрозай. 27-га ён іграў канцэрт у Менску.



**С.М.**


IREX-PROMEDIA

## Варты і няварты "Базар"

**Ня варта верыць штампам кшталту "Віцебск жыве "Славянскім базарам". Места жыве ня ім, а вакол яго. "Базарныя" выступы адбываюцца за агароджамі амфітэатру, куды пільныя міліцыянты прапускаюць толькі ўладальнікаў квіткоў ці адмысловых лэйбаў-акрэдытацыяў, а шматтысячны натоўп на плошчы Свабоды нічога ня бачыць. Квіткі дарагія (некаторыя сягаюць колькі дзясяткаў тысячаў) і большасьці віцьбічаў не па кішэні.**

Затое на "Базары" можна зарабіць неблагія грошы. Гэта датычыць сьпевакоў, гандляроў шашлыкамі, гарэлкай ды марозівам, а таксама мастакоў.

Шпацыруючы па "Горадзе майстроў", што месьціцца ля ратушы, варта як след разгледзецца, перш чым замаўляць сабе партрэт. Навокал безьліч студэнтаў-маляваньшчыкаў, якія працуюць па сыстэме "1 хвіліна — 1 тысяча". Цана і якасьць знаходзяцца ў адваротнай залежнасьці.

Ня варта, пачуўшы грукат сярод ночы, ускокваць з думкай пра бамбасховішча — гэта не вайна, а фаервэрк, які ладзяць недзе а трэцяй, пасьля сканчэньня канцэрту. Начныя канцэрты — эксклюзіў для людзей з грашыма.

Сярод натоўпу вылучаюцца арганізатары фэсту і расейцы. Першыя сьмешныя сваімі паводзінамі а-ля "мы тут гаспадары". Расейцы ж весяляць няўдалымі спробамі паўсюль разьлічвацца сваімі рублямі.

**Алесь Кудрыцкі**

IREX-PROMEDIA

## Мабілізацыя пасьля базару

**27 ліпеня, адначасова з акцыяй на плошчы Бангалор, адбыўся мабілізацыйны рок-канцэрт у віцебскім клюбе "Сава".**

Увогуле, музыкі, калі ехалі ў Віцебск, разьлічвалі на два выступы: у "Саве" і на плошчы, пасьля мітынгу, прысьвечанага Дню Незалежнасьці. Аднак, прыехаўшы на плошчу, яны не пабачылі ні бубноў, ні "панарамы" — адно да болю знаёмая гукаўзмацняльная ўстаноўка на колах і два мікрафоны. Зрэшты, нават гэта было раскошай: на тыя дваццаць-трыццаць (разам зь міліцыянтамі) чалавек, што прыйшлі на мітынг, хапіла б і легендарнага фізкультурнага мацюгальніка. Ашалелыя гурты паехалі ў "Саву". Наўздагон неслася мэгафоннае "Жыве Беларусь!", якое нават часова заглушыла мабілізацыйную кампанію крышнаітаў, што пэрманэнтна адбываецца ў сквэры Леніна і часам зьбірае не нашмат меншыя аўдыторыі.

Канцэрт у клюбе быў надзвычай энэргетычны. Даволі млява выглядалі толькі наваполацкія *"The Stokes"*. Усе астатнія — панкаўская "Голая манашка", гранджавы *"Happy Face"*, альтэрнатыўныя *"Exist"* і "Цмокі", фолькавы "Бан Жвірба" — працавалі ад душы. Эмацыйны напал узмацняўся яшчэ й адсутнасьцю вэнтыляцыі, што выклікала шэраг незапланаваных стрыптызаў на сцэне і ў залі: музыкі гралі без кашуляў, пот зь іх ліўся літаральна ручаямі. Ушчэнт змабілізаваныя слухачы адарвалі ад сцэны дрэнна прыбіты кавалак і гатовыя былі парасьцягваць на сувэніры й самых выступоўцаў. Асаблівай папулярнасьцю карысталіся іхныя майкі з мабілізацыйным сонейкам, галаўныя ўборы — у каго былі — і барабанныя палачкі.

Увогуле, гэты год, відаць, запомніцца нашым рок-музыкам як надзвычай насычаны — невядома, ці мелі б яны без мабілізацыйнай кампаніі гэтулькі канцэртаў, паездак, сустрэчаў. Дзякуючы ёй, рокеры атрымалі магчымасьць пабачыць, якім павінен быць нармальны шоўбізнэс. Гэты досьвед дапаможа трымаць сябе ў руках сярод усеагульнае апатыі наступнага году.

**Халімон**

### КОШТЫ

**на платныя прыватныя абвесткі (для прыватных асобаў, на старонку 12):**

— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 113 руб.

— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 143 руб.

— афармленая абвестка — 71 руб. за кв.см.

— афармленая абвестка — памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 94 руб. за 1 кв.см.

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанк» Менску, код 763.

**На зваротным баку бланку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: «За рэклямныя паслугі».**

## Беларусь па-расейску

Працяг са старонкі 1.

За імі няма Астроскага, няма Каліноўскага, няма Грынявіцкага, няма Рагулі, няма «Беларусі залатой» і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Якія ж баявыя песьні зубры сьпяваюць? Хіба *«Последняя осень»*?.. Дык якая ж яна апошняя? Яшчэ змагацца а змагацца!

Зубры робяцца пешкамі ў чужой двайной (а мо й трайной) гульні. Пазаўчора Шарэцкі, учора Домаш, сёньня Ганчарык, заўтра... А мо краіна проста ня хоча «пераходнай фігуры», як і «пераходнай» мовы?

Верасень пакажа.

Калі «Зубр» растане, як "Гербалайф", для спонсараў у гэтым ня будзе праблемы, у шарагоўцаў жа застанецца балючы ўспамін пра няспраўджаную мару. Адракаючыся беларускай мовы, «Зубр» адракаецца і гістарычнай пэрспэктывы. Не ўкаранёныя ў мове — дачаснікі. А вось "Край", Малады Фронт ці Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў захаваюцца ў нашмат больш стабільным выглядзе, бо ставяць сябе ў пэрспэктыву ня трох месяцаў, але году, пяці, пяцідзесяці гадоў.

Сапраўдная свабода і дэмакратыя немагчымыя бяз моцнай грамадзянскай супольнасьці. Моцнае незалежнае грамадзтва ня ўчэпіцца бяз моцнае нацыянальнае сьвядомасьці. Нацыянальны дух не загартуецца без прыгожае культуры.

Сьвет урэшце — у верасьні або праз пяць гадоў — вырашыць праблему Лукашэнкі. Ці вырашыць гэта праблемы Беларусі — во пытаньне. Ці палюбім мы сваю краіну — пытаньне. Каб Беларусь зьмянілася, патрэбнае культурнае перараджэньне, называйце яго нацыянальным адраджэньнем, памкненьнем да культуры ці сьпеўнай рэвалюцыяй. А ў гэтай справе любая цётачка з Івенца, што зьбірае грошы з пэнсіі на ахайны гранітны беларускамоўны помнік памерламу мужу, робіць болей, чым спансараваныя зубры. На жаль, хлопцы-зубробцы!

Культурнае перараджэньне сьпее падспадна, за Лукашэнкам ці не за Лукашэнкам. Ад палітычнага клімату яно залежыць, але ня больш, чым зерне — ад зімы.

Ад прысягі школьнікаў засталося пачуцьцё анэкдатычнасьці. Пасьля ўцямілася, чаму. "Бороться до конца своих дней" — гэта ж дрэнны пераклад беларускага "змагацца да скону". Па-беларуску — узьнёслы выраз, па-расейску — як праклящьце, але і як анэкдот адначасова. Нібы песьню засьпяваць: *"Мы выйдем тесными рядами"*.

Ня мае сваёй мовы расейскамоўная апазыцыя. Грошы мае, ідэалы мяняе на кандыдатаў, а замест мовы ўжывае сурагат. Сурагат мовы можа нарадзіць толькі сурагат дэмакратыі. Як маем ужо сурагат незалежнасьці. Трагедыяй хлапчукоў і дзяўчатак, якіх вывелі на плошчу Перамогі дарослыя кіраўнікі, будзе тое, што супраць гэткага сурагату дэмакратыі сапраўды можна будзе змагацца да канца сваіх дзён зь нязьменным посьпехам.

**Барыс Тумар**

## Македонія

**У сталіцы Македоніі Скоп'і выбухнула чарговая хваля антызаходніх бунтаў. Дэманстранты атакавалі пасольствы краінаў NATO і місію АБСЭ, спалілі машыны, якія ім належаць. Гэткім чынам македонскія нацыяналісты пратэставалі супраць ціску міжнароднае супольнасьці, якая прымушае ўрад Любчы Георгіеўскага саступіць альбанскім сэпаратыстам.**

# Нацыя на мяжы разрыву з Захадам

Тыя, нібыта, і просяць няшмат — каб іхную мову прызналі другой дзяржаўнай, каб альбанскую нацыю, нароўні з македонскай, вызналі дзяржаваўтваральнай і ўнесьлі зьмены ў канстытуцыю, якія ўрэшце ператвораць Македонію ў дзьвюхнацыянальную дзяржаву. Македонцы ўважаюць падобныя патрабаваньні за пагрозу адзінству нацыі. Нават у спробах адчыніць яшчэ адзін альбанскі ўнівэрсытэт яны бачаць перадумовы для развалу дзяржавы.

Іх можна зразумець: калі сёньняшнія дэмаграфічныя тэндэнцыі захаваюцца, прыкладна ў 2020 г. македонцы стануцца меншасьцю ў сваёй краіне. Сёньня яны складаюць каля 65% насельніцтва. Альбанцаў цяпер 23%, а яшчэ ў 1953 г. іх было менш за 12%.

"Ужо ёсьць адна альбанская дзяржава, неўзабаве зьявіцца яшчэ адна, нашто ж ім трэцяя? Тыя няшчасныя альбанскія кабеты, замкнёныя ў дамох, якія нараджаюць па шэсьць і болей дзяцей, гэтыя прыбышы з Косава, якім няма канца, — яны ж нас заліюць! — такія аргумэнты можна пачуць у кавярнях Скоп'я. — А той македонскі народ, вымардаваны ў Грэцыі пасьля другой сусьветнай вайны, толькі і мае, што свой лапік зямлі. Чаму ён павінен яго аддаць?" Гэта — аргумэнты паспалітых македонцаў на карысьць вайны.



REUTERS

Македонскі ўрад ня хоча весьці перамоваў з альбанскімі аддзеламі ня толькі таму, што ўважае іх тэрарыстычнымі арганізацыямі, але й таму, што значная, калі ня большая частка іх верхаводаў паходзіць з Косава, то бок з-за мяжы. Македонцы ўважаюць свае праблемы вынікам умяшаньня адтуль. Менавіта прыход з Косава значнай масы альбанскіх уцекачоў канчаткова ўзарваў мір у краіне, хаця й раней македонскаальбанскія стасункі не былі ідэальнымі.

Раскол між этнічнымі групамі ў Македоніі мае і сацыяльнае вымярэньне — альбанцы нашмат больш заможныя. Яны традыцыйна займаюцца гандлем і дробным бізнэсам, вялікая іх колькасьць працуе на Захадзе. Адрозьніваецца нават традыцыйнае жытло — дзьвюхпавярховыя альбанскія дамы і аднапавярховыя хаткі македонцаў.

Але заможнасьць альбанцаў мае і іншы грунт: нібы каўказцы ў Расеі, нашчадкі ілірыйцаў кантралююць крымінальны бізнэс у гэтай частцы Балканаў і ў Італіі, Нямеччыне, займаючыся кантрабандай зброі, наркаты, гандлем кабетамі.

Захад у канфлікце альбанцаў і македонцаў заняў бок меншасьці. Таму што меншасьці мусяць мець свае правы і таму што дынамічныя і век уцісканыя альбанцы-мусульмане ўяўляюць сабой важную стратэгічную процівагу свайму праваслаўнаму атачэньню. А македонцы — нацыя маладая і горда. Вось і ўзбунтаваліся супраць тамтэйшых Вікаў.

**Язапат Змысла**

## Агляд сярэднеэўрапейскіх падзеяў

**Славацкі міністар адукацыі Мілан Фтачнік зьбіраецца ўвесьці ў школах ёгу** — дзьве гадзіны на тыдзень. На занятку ёгі, як і на ўроку рэлігіі, дзеці маюць хадзіць са згоды бацькоў. Новую дысцыпліну будуць выкладаць падрыхтаваныя настаўнікі з адмысловымі сэртыфікатамі ад гуру Пармаганса Свамі Магешваранду.

Супраць ёгі паўсталі каталіцкія й эвангелісцкія біскупы, а таксама хадэкі, што ўваходзяць у кіруючую кааліцыю. Яны прапануюць для паляпшэньня фізычнага і псыхічнага стану вучняў павялічыць колькасьць гадзінаў фізвыхаваньня, бо ёга, маўляў, не стасуецца з хрысьціянскай маральлю. Ад яе, кажуць яны, дзеці робяцца сонныя і адрошанымі. Міністар, у сваю чаргу, спасылаецца на Ватыкан, які ў 1968 г. прызнаў, што ёга не супярэчыць дагматам каталіцтва. Сам Мілан Фтачнік займаецца ёгай ужо 18 год.



**Францускі прэзыдэнт Шырак зь вялікай дэлегацыяй чыноўнікаў і журналістаў (на двух самалётах) наведаў краіны Балтыі.** Сярод пытаньняў вострa стаяла праблема будынкаў дававенных пасольстваў Літвы, Латвіі й Эстоніі ў Парыжы, захопленых СССР пасьля акупацыі балтыйскіх краінаў у 1940 г. Фармальна будынкі належаць краінам Балтыі, але Масква не падзялася іх аддаць. Каб палагодзіць праблему, Францыя выкупіць у балтыйцаў юрыдычныя правы на пабудовы. Так, былое літоўскае пасольства будзе каштаваць Парыжу каля 4 млн. даляраў. Гэтых грошай літоўцам хопіць, каб купіць новы будынак.

**Сяргей Рак**



IREX-PROMEDIA

## Расея

### Кожны пяты – наркаман

**Паводле зьвестак экспэртаў МУС Расеі, колькасьць наркаманаў у Расеі дасягае 3 млн. чалавек.** Міністар унутраных справаў Расеі Грызлоў адзначыў, што "большасьць наркаманаў маюць ад 15 да 35 гадоў і практычна кожны пяты малады чалавек у Расеі — наркаман".

### Не вярнуліся

**За першае паўгодзьдзе сёлета на тэрыторыі Расеі бязь вестак згінула 96 грамадзянаў Беларусі.** Пра гэта сказаў кіраўнік крымінальнага вышуку МУС В.Патаповіч. Толькі ў Маскве згінула 65 жыхароў Беларусі. Усяго ж, паводле словаў Патаповіча, за першыя паўгоду 128 беларусаў згінула за межамі краіны.

## Шатляндыя-Літва

### Выдалі забойцу беларускіх жыдоў

**У пятніцу шатляндзкія ўлады загадалі арыштаваць і выдаць Літве Антанаса Гечаса,** абвінавачанага ў вайсковых злачынствах. Часам вайны Гечас быў афіцэрам 12-га Літоўскага дапаможнага паліцэйскага батальёну, які ў 1941—43 г. замардаваў тысячы беларускіх жыдоў.

**С.Р.**

## Расея

# Увойдзеш і ня выйдзеш

**Закон "Аб парадку прыняцьця ў Расею і ўтварэньня ў яе складзе новага суб'екту Фэдэрацыі", ухвалены Думай, распрацоўваўся з разьлікам на далучэньне да Расеі новых тэрыторыяў, накшталт Абхазіі ці Прыднястроўя, але ў працэсе прыняцьця быў зьменены.**

Акцэнт быў перанесены на ўзбуйненьне наяўных рэгіёнаў Расеі.

Асноўным прынцыпам увахоаджаньня ў склад Расеі зьяўляецца добраахвотнасьць. Другая ўмова — новы суб'ект ня можа мець асаблівага статусу, што розьніўся б ад статусу іншых рэгіёнаў. Таму, напрыклад, Абхазія не атрымала б больш правоў, чым які Татарстан. Гэты пункт робіць практычна немагчымым інкарпарацыю Беларусі ў склад Расеі.

Каб трапіць у склад Масковіі, не абавязкова мець зь ёй супольную мяжу. Спачатку паўнамоцным органам краінаў-прэтэндэнтаў трэба зьвярнуцца да Расеі з прапановай заключыць адпаведную міжнародную дамову. Пасьля дамова павінна прайсьці праверку Канстытуцыйнага суду Расеі на адпаведнасьць Канстытуцыі. І толькі пасьля станоўчага рашэньня КС прэзыдэнт мае ўнесьці дамову на ратыфікацыю ў Думу, а адпаведны канстытуцыйны закон з умовамі прыняцьця — у ніжнюю палату парлямэнту.

Гэты чыста прагматычны закон не прадугледжвае права на выхад і ўмоваў выхаду са складу фэдэрацыі, якія абгаворваліся ў савецкай канстытуцыі Расеі.

**Сяргей Радштэйн**

## ЗАЯВА ПРЭС-СЛУЖБЫ ЎКРАІНСКАЕ НАРОДНАЕ ПАРТЫІ "САБОР" З НАГОДЫ ВІЗЫТУ Л.КУЧМЫ Ў БЕЛАРУСЬ

Мы лічым недарэчнай сустрэчу Л Кучмы з А.Лукашэнкам, якога вінавацяць у стварэньні "эскадронаў сьмерці" дзеля фізычнага зьнішчэньня асноўных апазыцыйных палітыкаў. УНП "Сабор", як і ўсе партыі, што ўваходзяць у блёк украінскай дэмакратычнай апазыцыі Форум Нацыянальнага Паратунку, салідарная зь беларускімі партыямі ў іхнай барацьбе за дэмакратычную, справядлівую, эўрапейскую Беларусь. Мы пераканаьія: без зьнішчэньня дыскрэдытаваных антынародных рэжымаў Л.Кучмы й А.Лукашэнкі, без адраджэньня дэмакратый й законнасьці немажлівае сапраўды стабільнае разьвіцьцё нашай часткі эўрапейскага кантынэнту й пабудова сапраўды ўтульнага эўрапейскага дому для ўсіх эўрапейцаў.

**Прэс-служба ЎНП "Сабор"**

## Ліст у рэдакцыю

# Краіна непалоханых



IREX-PROMEDIA

Якімі б прычынамі ні была выкліканая эміграцыя, яна заўсёды пачынаецца з шоку. Незалежна ад таго, добрымі ці кепскімі былі тваё першыя ўражаньні на чужой зямлі. Відаць, гэты шок спараджаецца ўсьведамленьнем, што жыцьцё перамянілася незваротна. Што ты сам, з сваёй волі узяў і выдраў сябе за валасы са звыклай глебы. І цяпер невядома, як і зь якога боку прырастаць каранямі да іншага грунту.

Два месяцы пасьля пераезду — гэта стан, калі ў хаце ўжо гудзе кандыцыянэр, але яшчэ няма камптутару (зрэшты, магло быць і наадварот: напросту адно з двух удалося набыць таньней і хутчэй). Калі ў гародніннай краме ўжо лёгка адрозьніваеш спаржу ад шпінату, але яшчэ ня ўмееш прыгатаваць ні таго, ні другога. Калі, нарэшце, больш ня блытаеш, цягнуць ці пхаць дзьверы, на якіх напісана "*Push*", але яшчэ не даюцца тэлефонныя размовы па-ангельску, і таму спроба дазваніцца да кабэльнага тэлебачаньня сканчаецца роспачным кіданьнем слухаўкі. (Зь іншага боку, два месяцы зь непадлучаным тэлевізарам могуць разглядацца як здаровы інфармацыйны пост. Які нечакана скончаецца не з маёй волі: стаміўшыся чакаць працягу размовы, пэрсанал кабэльнага ТБ сам вылічыў "ньюкамэра", і пару дзён таму ў нашу кватэрку без запрашэньня завітаў тэлемайстар, які за пяць хвілін наладзіў 29 каналаў — мясцовы мінімум.)

Якімі б прычынамі ні была выкліканая эміграцыя, усе іміграны маюць прынамсі адну супольную рысу — яны трошкі авантурысты. Інакш, без драбочка гэтай самай авантурнасьці, як ты наважышся распачаць жыцьцё нанова? Безь сяброў і сваякоў, без улюбёных кніжак, без напалову сыпланага каштана пад акном, бяз тысячы звыклых і зручных дробязяў — напрыклад, без свайго цырульніка, якому нічога ня трэ было тлумачыць. (А тут цырульніца-віетнамка, нават пасьля шматразовага тыцканьня пальцам у каталёг, арганізавала на маёй галаве нейкі дзікі "юнісэкс"...) Як ты наважышся адмовіцца ад усяго, што нібы ўжо належыцца мець чалавеку пад сорак гадоў (пераважна такі век маюць "аднаклясьнікі" на бясплатных курсах ангельскай мовы для прыбышоў): ад пасады, імя, прафэсіі, кар'еры — і быць гатовым яшчэ шмат гадоў вучыцца, перавучвацца, давучвацца, адначасова зарабляючы на жыцьцё працай у пякарні, на будоўлі, у краме...

Эміграцыя — заўсёды экспэрымэнт на сабе. Шмат разоў паўтараны і досыць падрабязна апісаны ў літаратуры, але ад таго ня менш захапляльны. Забаўна, напрыклад, назіраць, як іранічна-грэблівае стаўленьне да "беларускіх сувэніраў", што гадамі пыліцца ў ГУМе ці "Паўлінцы", раптоўна замяняецца на прачула-замілаваныя. І вось ужо саламяная птушка, набытая на ўсялякі выпадак, у падарунак невядома каму, беражліва стаўляецца на ўласную кніжную паліцу, а керамічныя талеркі з краявідамі Беларусі сьціплымі гаарновае месца ў чырвоным куце...

...З аэрапорту таксоўка прывезла нас у матэль з кіношнай назвай "*The Silver Moon*", "Срэбны месяц", на самым беразе возера Антарыё. Быў цёплы майскі вечар, цьвіў бэз, пахла сьвежаскошанай травою. У кветніку скакала непужлівая чорная вавёрка. Па адмысловай дарожцы ўздоўж возера на роліках і на роварах каціўся народ. Я асьцярожна разглядзелася й ціхенька сказала сабе: цяпер гэта твая краіна. Словы нікуды не паляцелі, яны застылі ў паветры. Вавёрка паглядзела на мяне зь відавочным дакорам. Але я, далібог, ня ведаю іншага спосабу зразумець нешта, апроч як спачатку палюбіць яго. Менавіта ў такой пасьлядоўнасьці.

Палюбіць гэтыя краявіды — такія звыклыя, такія беларускія... пакуль не натыкнешся вокам на дрэва з карой, як у нашай таполі, але зь лісьцікамі рыхтык як у заечай капусты. У гэтую хвіліну ты

Catching in the Rye

# Біблія падлеткаў

Сяргей Паўлоўскі

Спаўняецца 50 гадоў культавай кніжцы, свайго роду бібліі ўсіх падлеткаў другой паловы мінулага стагодзьдзя. На беларускую мову яна не перакладзеная дагэтуль, таму ў нашых краёх чытаюць яе па-расейску або па-ангельску. «Над пропастью во ржи» — так гучыць яе расейская назва. Праўда, дапытлівыя крытыкі і сёньня працягваюць спрачацца пра тое, ці не занадта яна расплывістая і далёкая ад ангельскага арыгіналу, які літаральна перакладаецца як «Лавец у жыце». Гучыць нязвыкла. Няпростая гэта справа — зьмяніць клішэ гатовага культу.

Біяграфія амэрыканца Джэрама Сэлінджэра, які напісаў «Лаўца ў жыце», уяўляе сабою бэстсэлер, ня горшы за згаданую кніжку. Найперш ён славуты тым, што ў 1965-м, на вяршыні папулярнасьці, раптам кінуў пісаць, зашыўся ва ўласнай сядзібе ў глыбокай правінцыі, і больш яго амаль ніхто ня бачыў і ня чуў. Гэтак працягваецца ўжо тры дзесяцігодзьдзі. А самому Сэлінджэру цяпер 82 гады.

Дачка Сэлінджэра Маргарэт нядаўна разбурыла таямніцу самотніцтва бацькі, надрукаваўшы кнігу пра яго пад назвай «У пагоні за марай». Маргарэт вырасла побач з бацькам акурат на той недаступнай для цікаўнае публікі сядзібе.

«*Маё маленства было падобнае да страшнае казкі. Існаваньне Джэрама Сэлінджэра далёка не заўсёды было добраахвотным зьняволеньнем, аднак на жыцьці ягоным ляжаў нейкі злавесны водсьвет. У гэтым чалавеку заўсёды адчувалася трагічная раздвоенасьць*».



Джэрам Сэлінджэр

Дачка пісьменьніка часткова тлумачыць гэта ягоным дзяцінствам:

«*Ён рос у цэнтры Нью-Ёрку, на Манхэтэне. Бацька ягоны, габрэй, пасьпяхова гандляваў прадуктамі харчаваньня. Звыш меры клапатлівая маці была ірляндкай, каталічкай. Аднак яна падпарадкоўвалася абставінам і выдавала сябе за габрэйку, хаваючы праўду нават ад сына. Сэлінджэр, які з асаблівай вастрынёй усьведамляў сябе паўжыдкам, на ўласным досьведзе спазнаў, што такое антысэмітызм. Вось чаму гэтая тэма неаднаразова і даволі выразна праступае ў ягонай творчасьці*».

Бацька пісьменьніка прыехаў у Амэрыку з колішняга Вялікага Княства Літоўскага. Нашы землякі-габрэі добра спрычыніліся да стварэньня амэрыканскай культуры. Пачынаючы ад Мэера Ланскага-Шушланоўскага, які прыехаў з Горадні, стаў «крутым» мафіёзі ў Штатах і заснаваў Лас-Вэгас. Ад братоў Гершвіных — Джорджа і Айры, стваральнікаў амэрыканскае опэры. Ад Сэлінджэра. Цікава, як гучала прозьвішча ягонага бацькі да ад'езду ў Амэрыку?..

Далейшая біяграфія пісьменьніка нагадвае лёс Васіля Быкава. Менавіта вайна сталася тым вірусам, які выклікаў у абодвух захворваньне на прозу. Маргарэт піша:

«*Скончыўшы вайсковую вучэльню, Джэрам растварыўся ў масе амэрыканскіх «джы-ай». У складзе 12-га пяхотнага палку 4-й дывізіі ўдзельнічаў у другой сусьветнай вайне, адкрываў другі фронт, дэсантаваўся ў Нармандыі. На фронце было несалодка, і ў 1945-м будучы клясык амэрыканскай літаратуры патрапіў у шпіталь з нэрвовым зрывам*».

Мусіць, было ад чаго. Там, на фронце, Сэлінджэр пазнаёміўся з Хэмінгуэем і на ўсё жыцьцё быў шакаваны тым, як старэйшы таварыш па-заліхвацку расстрэльвае куранятаў. Тады Джэрам яшчэ ня мог ведаць, што праз шмат гадоў зьедлівая крытыка назаве яго самога «Хэмінгуэем для бедных».

У адрозьненьне ад Быкава, Сэлінджэр ваенным пісьменьнікам ня стаў. Аднак, калі ўлічыць, што ваенны — гэта ня быкаўскае самавызначэньне, а прыдумка крытыкі, дык тое адрозьненьне можа і зьнікнуць. Тэматычны бок літаратуры — вонкавы. Затое максымалізм Быкава яднае яго з Сэлінджэрам і робіць у беларускай літаратуры непараўнальным ні з кім.

«*Стаўленьне да вайны і пасьляваеннага сьвету ў яго было таксама дваістым — на жаль, іншае вызначэньне падшукаць цяжка. У якасьці супрацоўніка амэрыканскай разьведкі Джэрам удзельнічаў у праграме дэнацыфікацыі Нямеччыны. Будучы чалавекам, які ўсёй душой ненавідзіць нацызм, ён аднойчы арыштаваў дзяўчыну — маладую функцыянэрку нацысцкай партыі. І ажаніўся зь ёю. Тую немку — першую жонку бацькі — звалі Сыльвія. Разам зь ёй ён вярнуўся ў Амэрыку, і нейкі час яна жыла ў доме ягоных бацькоў. Але шлюб аказаўся недаўгавечным. Яна ненавідзела габрэяў з такой самай жарсьцю, зь якой ён ненавідзеў нацыстаў*».

Інтрыгу аповесьці Сэлінджэра стварае эфэкт чытаньня чужога дзёньніка. У нас падобнага дасягаў Андрэй Федарэнка ў сваёй аповесьці «Гісторыя хваробы». Але Федарэнка вырас наўзбоч ад амэрыканскае масавае культуры, і таму аналёгіі яму трэба шукаць хутчэй у расейскай літаратуры. Затое цалкам у полі амэрыканізму вырас Адам Глёбус і ягоныя аповесьці з кнігі «Толькі не гавары маёй маме».

Дзіўнавата раптам адкрыць для сябе, што ты як бы напалову амэрыканец. Але так і ёсьць. Прынамсі так было ў школе. У глыбокія савецкія часы мы з нашымі жуйкамі *"Wrigley"* і джынсамі *"Levi's"*, партрэтамі Джона Ўэйна і музыкай *"Rolling Stones"* былі напалову антысаветчыкамі, бо былі напалову амэрыканцамі. Нават ніколі ня думаючы пра гэта.

## 1951

**Уявіць сабе аповесьць Сэлінджэра ў Беларусі тады, калі яна выйшла з друку, у 1951-м, цяжка. Тады ў краіне не было нібыта анічога, што магло б адгукацца на такі твор. Што ў 51-м было ў нас і што ў сьвеце?**

**Ужо год цягнецца вайна ў Карэі. У Злучаных Штатах вось-вось наступіць пара макартызму. У 1951-м пакараныя сьмерцю першыя камуністычныя агенты — муж і жонка Розэнбэргі. Працэс Розэнбэргаў скалануў самыя нетры амэрыканскае нацыі. Розэнбэргі — жыды. Антыкамунізм, расізм, антысэмітызм і гамафобія буяюць на поўную моц. У гарадах ідуць масавыя дэманстрацыі, удзельнікі якіх патрабуюць абараніць дзяржаву.**

**У Эўропе ў 1951 г. утвараецца Эўрапейская супольнасьць вугалю й сталі, у якую ўвайшлі 6 дзяржаваў. А ў Лёндане адбываецца яшчэ адна прыкметная падзея — першы конкурс прыгажосьці «Міс Сьвету — 51».**

**Тым часам Сталін, выдаўшы «Пытаньні мовазнаўства», распачынае новую працу — «Эканамічныя праблемы ў СССР». У Маскве расстрэлам абвінавачаных сканчаецца справа Габрэйскага антыфашысцкага камітэту. Тым самым сканчаецца і «справа міністра дзяржбясьпекі Абакумава».**

**Зь Беларусі ў 1951-м начыста высяляюць пратэстантаў. З Баранавічаў у Іркуцкую вобласьць выпраўляюць усіх егавістаў сем'ямі. А за кампанію — і недабітых андэрсаўцаў. Агулам 1012 чалавек. З Маладэчна 1119 егавістаў выпраўляюць на станцыю Ангара. Больш за тысячу чалавек адпраўляюць туды ж зь Ліды.**

**У Менску нявечаць катэдральны касьцёл, у Магілёве падкладаюць дынаміт пад Багаяўленскі сабор.**

**Партызаны пад Моталем зьнішчаюць атрад НКВД і начальніка Янаўскае міліцыі. Праз колькі тыдняў пад вёскай Бродніцай, тамсама, на Янаўшчыне, разьбіваюць ужо партызанаў. 9 верасьня 1951 г. у лясох пад Маладэчнам прызямляецца парашутыст Янка Філістовіч, каб утварыць уласны атрад і партызаніць у маладэчанскіх ваколіцах цэлы год.**



Янка Філістовіч

**А сканчаецца гэты год у Беларусі навагоднім падарункам ад Сталіна 25 сьнежня 1951-га: новым, чырвона-зялёным сьцягам, створаным паводле праекту мастака Волкава. Тым самым сьцягам, зь «беларускім арнамэнтам каля дрэўка», што лунае над Беларусяй да сёньня.**

**Гары Куманецкі**



# вавёрак

будзеш думаць пра нешта іншае — магчыма, вучыцца пераводзіць Фарэнгэйта ў Цэльсія — і таму сьвядомасьць зрэагуе не адразу, а падсьвядомасьць закрычыць першая: што робіць заечая капуста на дрэве? На што сьвядомасьць, адарваўшыся ад матэматыкі, мэлянхалічна зазначыць: сьцíхні, мы ўсе тут жывем дагары нагамі...

Палюбіць гэтыя прыватныя домікі, зь якіх на 90% і складаецца Таронта — малюпасенькія, нібы лялечныя, што стаяць блізкаблізка адзін да аднаго, зь іх стрыжанымі газонамі памерам з далонь, нізкай стольлю і дахам, недарэчна насунутым на самыя вокны, — і чаму ў неабсяжнай Канадзе так эканомяць на плошчы? (Дзеля эканоміі гэтай самай плошчы мы купілі дзецям двухпавярховы ложак. І собіла ж нам сабраць адзін ярус у дзіцячым пакоі, а другі, дзеля зручнасьці, — у суседнім! Хто ж бы думаў, што ў канадыйскі калідор не пралазіць нават палова сабранага дзіцячага ложка...)

Палюбіць гэтае гарачае вільготнае лета, якое немагчыма перажыць без кандыцыянэра ці хаця б вэнтылятара ў хаце. Штовечар узгадваецца Багдановічава — "Ціхі вечар; зьнікнула сьпякота..." Гэта — дакладна не пра таронцкі ліпень, сьпякота тут ня нікне. А дзявятай вечара сядзіш на самым беразе рэчкі і зусім не адчуваеш палёгкі. Уначы нагрэтае нерухомае паветра хочацца скінуць нагамі, як цяжкую коўдру. Да яго, да гэтага невыноснага лета, ці можна прызвычаіцца? І ўсё ж і яно вымагае любові...




Палюбіць канадыйскі "народ" — дзіўную мешаніну адценьняў, звычаяў, строяў і страваў — ужо за адно тое, што яму таксама падабаюцца чырвоны і белы колеры. (Можа, гэта і ня казкі, што канадыйскі сьцяг дапамагалі распрацоўваць тутэйшыя беларусы?) Дзяржаўныя колеры тут надзвычай папулярныя. Чырвоны пас на белых баках таронцкіх аўтобусаў — якраз пасярэдзіне. Калі едзеш, побач з табою ў вокнах дамоў заўсёды плыве бел-чырвона-белы сьцяг...

Палюбіць яе, гэтую нязнаную краіну Канаду, хоць бы таму, што менавіта тут мае дзеці ўпершыню ўбачылі "беларускае Купальле" (няхай і моцна стылізаванае), а я на тым самым Купальлі таксама ўпершыню ў жыцьці — сьветлякоў. Забыўшыся на ўсё, мы стаялі і доўга глядзелі на сотні і сотні жывых агеньчыкаў, на гэты неверагодна прыгожы фаервэрк, і вяночкі на галовах маіх дзяўчат пахлі зусім наскімі кветкамі — рамонкамі і канюшынай.

Краіна непалоханых вавёрак — амаль уся наша плянэта ў мініятуры. Тут ёсьць свой вялікі "Чайнатаўн", шматлікія польскія крамы, украінскія цэрквы, расейскія газэты, габрэйскія дантысты, нямецкія духавыя аркестры і лацінаамэрыканскія карнавалы... Тут няма, на жаль, амаль нічога беларускага, шырока вядомага па-за межамі Згуртаваньня Беларусаў Канады. І сакрамэнтальная фраза пра геаграфічнае становішча тваёй краіны — "бітвін Поланд энд Раша" — будзе адной зь першых, якую ты навучышся гаварыць па-ангельску бегла. Хаця сам па сабе факт, што вышэйпамянёнае Згуртаваньне дагэтуль існуе, — ужо цуд небывалы, бо старых беларусаў, якія закладалі гэтую арганізацыю ў пасьляваенныя гады, засталося адно жменечка. Я напішу пра іх абавязкова — і пра старых, і пра маладых канадыйскіх беларусаў, напішу і пра многае іншае — тэмаў для артыкулаў тут нямерана. Напрыклад, іміграцыя і мова, іміграцыя і дзеці. Альбо — агляд мясцовага друку. Магу адказаць у артыкулах на любыя пытаньні, і буду вельмі радая, калі нехта дашле мне іх на электронны адрас.

Але галоўнае пакуль — менш узгадваць.

**Віялета Кавалёва, Таронта**
**vkavaliova@hotmail.com**

# Подых навальніцаў



Незвычайны сёлета ліпень. Тэмпэратура перавышае на 6—10 градусаў сярэднюю для гэтага месяца. Удзень стаіць невыносная гарачыня, моцна парыць. Добра працаваць можна толькі з раніцы ці ўжо пад вечар. Удзень адно жаданьне — схавацца ў які-небудзь вадаём. Паціху пачынаеш зайздросьціць жыхарам Гішпаніі, зь іхнай абавязковай сыестай. Толькі і застаецца, што спаць удзень. А зь вечара і ўначы — бясконцыя навальніцы. Нечакана набяжыць хмара, загрукоча гром, распаласуе неба маланкамі-зарніцамі, паліе дождж — ды такі моцны, што акна не адчыніш, каб пусьціць глыток сьвежага паветра: вадой заліе ня толькі падваконьне, але й падлогу. Цяжка нават працаваць за кампутарам: ад удараў перуноў па лініях электраперадачы раз-пораз адключаецца ток.

Праз нейкі час грымоты сьціхаюць, сунімаецца дождж. Здаецца, што навальніца адыходзіць. Аднак праз паўгадзіны яна вяртаецца, і ўсё пачынаецца нанова. А то і ўраган.

З 24 на 25 ліпеня, як паведамляе Белгідрамэтцэнтар, навальніца ў розных кутках Менску доўжылася 8 гадзінаў (ад 21.15 і да 5-й раніцы). На вуліцы Захарава дрэвы паваліліся на дарогу й спынілі рух. У вёсцы Пятроўшчына пад Менскам дрэва пашкодзіла лінію электраперадач, і жыхары засталіся безь сьвятла. Тамсама маланкай спаліла дах у прыватным доме.

У ноч з 26 на 27 ліпеня на Магілёўшчыне засталіся без электрычнасьці 32 населеныя пункты, 25 прадпрыемстваў, 14 фэрмаў. У Берасьцейскай вобласьці лічбы значна большыя — 270 населеных пунктаў. У вёсцы Прыборава на самым поўдні Берасьцейшчыны маланкай спаліла царкву.

За тры дні (8, 23, 24 ліпеня) на Беларусь вылілася ўся ліпеньская норма ападкаў. А залевы ідуць і ідуць.

Як паведамілі ў Міністэрстве па надзвычайных сытуацыях, сёлета пярун забіў трох чалавек. Так, у вёсцы Рэпічы Баранавіцкага раёну навальніца засьпела бацьку, сына й пляменьніка па дарозе з возера. Маланкай аглушыла адразу трох. Першым апрытомнеў бацька. Сына ён "адкачаў", а пляменьніка не пасьпеў. У вёсцы Гута, што ва Ўшацкім раёне, шафёр тамтэйшага гароднiннага заводу з дачкой зграбаў ля хаты сена, хацеў пасьпець да дажджу. Маланка патрапіла ў абаіх. Дачку ў бальніцы адраталі, а бацька памёр, не апрытомнеўшы.

Паводле прагнозаў сыноптыкаў, у пачатку жніўня дажджоў паменшае, а тэмпэратура будзе трымацца блізу 23—27 градусаў. Бліжэй да сярэдзіны месяца адновіцца звычайны беларускі жнівеньскі балянс — 18—23. Уначы туманы.

**Чалавек, у якога трапіла маланка, вельмі падобны да памерлага: ён бледны, зрэнкі пашыраныя, пульс адсутнічае. Да прыбыцьця "хуткай дапамогі" трэба зрабіць яму масаж сэрца і штучнае дыханьне.**

---

ВОДГУК

# Дакладней пра кітабы

**Напярэдадні публікацыі ў "Нашай Ніве" артыкулу "Кітаб Хасяневіча" (2 траўня 2001 г., аўтары С.Богдан, В.Гушча), я, так супала, скончыў трансьлітарацыю гэтага ж рукапісу. Таму — тэма знаёмая.**

У сваёй публікацыі С.Богдан і В.Гушча прапануюць адмовіцца ад назвы "арабіца" і называць арабскае пісьмо аліфам, бо альфабэт у кітабах "значна адрозьніваецца ад абэцэды арабскае мовы".

Па-першае, аліфам у кітабе Хасяневіча называецца ўласна *арабскае пісьмо*, а не дастасаванае татарскімі кніжнікамі да беларускай фанэтыкі. Перапісчык потым пералічвае ўсе 28 літараў арабскага альфабэту (і яшчэ 29-ю — *Ла*, лігатуру, утвораную зь літараў *лям* і *аліфа*) безь пяці дадатковых літараў для беларускай фанэтыкі. Дый гэтыя дадатковыя стылізаваныя пад арабскае пісьмо, на ўзор канкрэтных арабскіх літараў.

Магчыма, і ёсьць культурна-гістарычныя падставы карыстацца тэрмінам *"аліф"*, але й сынанімічная назва *"арабіца"* мае права на існаваньне, бо ёсьць аналягічныя тэрміны *кірыліца, лацініца*. Назву *"арабіца"* зразумее чалавек, які філялёгіяй не займаецца, назва *"аліф"* запатрабуе тлумачэньня.

Можна пашкадаваць, што ў пададзенай С.Богданам і В.Гушчам табліцы арабскага альфабэту — *аліфу* — не пазначаюцца мяккія гукі і тым самым не адрозьніваюцца ад цьвёрдых. Гук [з] паводле пададзенага ў газэце альфабэту пазначаецца літарамі *За, Заль* і *Зо* (назва аўтарская). Але першымі дзьвюма літарамі ў кітабах пазначаецца мяккі [з'], а трэцяй — цьвёрды [з]. Тое самае зь літарамі *Ка* (для пазначэньня цьвёрдага [к]) і *Каф* (для пазначэньня мяккага [к']). Дый навошта прыдумляць новыя назвы літарам, калі старыя — больш лягічныя? Літара для пазначэньня цьвёрдага [к] — *Каф*, для пазначэньня мяккага [к'] — *Кяф*.

Ёсьць і іншыя пытаньні да С.Богдана і В.Гушчы. Навошта ў сучасным аліфе дзьве літары для пазначэньня гука [х]? У чым іх функцыянальная розьніца?

Калі існуюць дзьве літары для перадачы [г], то можна здагадацца, што адна літара — для [г] фрыкатыўнага, а другая — для [ґ] выбухнога. Але ў "спарадкаваным" альфабэце не пазначана, дзе якая.

Зь якога часу арабская *Йа* стала пазначаць гук [і]?

Які гук у беларускай мове аўтары зьбіраюцца абазначаць літарай *Тэ*? Ёй у тэкстах XVI ст. пазначаўся мяккі [т'], у тэкстах XVIII—XIX ст. ім карысталіся хутчэй па традыцыі, і пазначаў ён этымалягічна цьвёрды [т]. Але ж для цьвёрдага [т] ёсьць іншая літара *То*.

Што чуваць пра пазначэньне галосных гукаў "агаласоўкамі", якім аўтары прыдумалі новыя назвы, адпаведныя іх выгляду? Дзе самі "агаласоўкі"? Чаму адсутнічаюць у публікацыі?

Не хачу пакрыўдзіць аўтараў, але ў манаграфіі А.Антановіча "Беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом" (1968) усе гэтыя моманты прапісаныя ня проста акуратна, а зь любоўю, і разабрацца там можа любы і кожны. Тут — не.

Каб пісаць арабскімі літарамі па-беларуску, трэба добра ўяўляць сабе нормы правапісу. Аўтары і тут хуткія на вырашэньне праблемы: "Як будзеце пісаць, трымайцеся аднаго варыянту". Выключна моцна! Гэта самая кароткая граматыка, якую даводзілася чытаць. А між тым ёсьць сур'ёзныя праблемы ў дастасаваньні арабскага пісьма для запісу беларускай мовы. Гэта, напрыклад, праблема, якая не была вырашана татарскімі кніжнікамі: перадача на пісьме цьвёрдасьці-мяккасьці беларускіх зычных.

Пойдзем далей. "Трэба сказаць пра абсалютную неўпарадкаванасьць артаграфіі аліфнага пісьма, перапісчыкі пісалі так, як ім здавалася... шукаць заканамернасьцяў у тагачасным аліфным правапісе — справа марная".

Сапраўды, Кітаб Хасяневіча непасьлядоўны ў выкарыстаньні артаграфічных нормаў. Але навошта гэта пераносіць на ўсе кітабы? Варта ўзяць згаданую кнігу Антона Антановіча: "Артаграфія кітабу (1837 г.) Шагідзевіча вельмі пасьлядоўная" (пра тэкст 1815 г.) (с.75).

Няма ў С.Богдана і В.Гушчы падставаў зьмяншаць моўную каштоўнасьць кітабаў. Мове вядомых і апісаных А.Антановічам кітабаў, асабліва XVIII і пачатку XIX ст., уласьцівая артаграфічная ўнармаванасьць. Рукапіс Хасяневіча ў гэтым сэнсе зьяўляецца выключэньнем.

Зьвернемся да трансьлітараваных С.Богданам і В.Гушчам беларускіх тэкстаў. Справа аўтараў, якой сыстэмай карыстацца пры трансьлітарацыі — з элемэнтамі фанэтычнай траскрыпцыі (гучаньня) ці ўвогуле вольна пераказваць тэкст. Але пры любой канвэрсіі павінна захоўвацца спэцыфіка арыгіналу. І там, дзе зычны мяккі, то яго адпаведна і перадаюць. Аўтары гэтага не прытрымліваліся. Так, у аўтараў *Забур* (Псалтыр), а ў арыгінале — *Зябур*. У аўтараў — *Загідова, Загідка* (аўтары лічаць гэта ўласным імем. Сумнеўна! Словам *Зягідове* зьвяртаюцца да маці-ўдавы і сына адначасова, а словам *Зягідка* — да жонкі-ўдавы), у тэксьце — *Зягідове, Зягідка*.

Асобныя месцы расчытаныя няслушна. Параўнаем адзін толькі ўрывак. У публікацыі:

"Сулейман пытаў у сваіх паноўмаршалкаў у старэйшых (*ці хопіць пачастунку на ўсіх*). "Старшына, — мовілі, — і крулю ня только на дзень, але на кілько дзесент дней можа быць, і сам, і дзеўце ўсіткага сяла (*і любым дзеўкам хопіць*)". У дужках — камэнтар С.Богдана і В.Гушчы.

У арыгінале:

*Сюлейман* пытаў у сваіх паноў, маршалкаў, *у старшых: ці будзе досіць? Старшына мувілі: І*, крул(ю), *не тыл(ь)ко* на дзен(ь), але на кіл(ь)ка дзесент дней можэ быць і сам *відзіў жэ ўшыткег̂о сіла*".


IREX-PROMEDIA

Камэнтар: *досіць* (аўтары яго чамусьці прапусьцілі) бел. *досыць*; *і, крулю* адпавядае беларускаму *ай, каролю* (слова *І* — тут выклічнік цюркскага паходжаньня, адпавядае беларускаму выклічніку *ай*). У аўтараў — гэта злучнік. І ўжо зусім нечаканае — "дзеўка" ўсіткага (?) сяла (?). Няма ў арыгінале "дзевак". Што да "ўсіткага", то гэта *ўшыткег̂о* — зьмененае польскае слова *вшысткег̂о* "ўсяго". Выклікае, безумоўна, роздум слова "сіла". Цёмная мясьціна. Слова "сіла" можа тут азначаць "шмат, вялікая колькасьць". Такое адно са значэньняў гэтага слова ў сучаснай украінскай мове.

Гэта, на жаль, не адзіны недагляд. Так, са слова *дзісейшага* (дня), г.зн. *сёньняшняга дня, сёньня* аўтары зрабілі два, ды яшчэ з камэнтаром, які зацямняе сэнс выказваньня: "дзе (*быццам бы*) сейсяга дня".

Не разабраліся аўтары і са словамі *йедзене (ядзеньне, яда, страва)*, яно ў іх — "едзена". Старажытнае слова *ўдыханьні (зьвяры, рыбы, птушкі, увогуле жывыя істоты)* у аўтараў "удыхана".

Увогуле ўся публікацыя С.Богдана і В.Гушчы падзяляецца на некалькі частак. Найбольш вабная — матэрыялы з кітабу Хасяневіча. Можна было б на гэтым паставіць кропку, каб не адна акалічнасьць. Гэтая акалічнасьць называецца выхаванасьцю. Цяжкае ўражаньне засталося ад першай часткі публікацыі. Ёсьць веды, але няма павагі, адсутнічае паважлівая ацэнка зробленага папярэднікамі.

"На жаль, дасёньня нашыя навукоўцы не займаліся гэтымі кнігамі сур'ёзна". А як? Сьмехам? Ці трэба гэта разумець так, што гісторыя дасьледаваньня кітабаў цяпер будзе дзяліцца на два пэрыяды: да публікацыі С.Богдана і В.Гушчы і пасьля?

Так, незаўважанай засталася кніжка Антона Мухлінскага, прафэсара і дэкана факультэту ўсходніх моў Санкт-Пецярбурскага ўнівэрсытэту, выдадзеная ў 1857 г. у Санкт-Пецярбургу. Так беларусы ведаюць пра славутага земляка з-пад Наваградку...

Кніга Антона Антановіча "Беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-артаграфічная сыстэма" (1968) ставіць беларускае мовазнаўства ўпоравень з сусьветнымі дасягненьнямі ў гэтай галіне. Пра яе — мімаходзь, паўслова.

"Многія навукоўцы ў працах пра беларускіх татараў выяўляюць сваю некампэтэнтнасьць". А Вашыя прыдуманыя "дзеўкі", "усіткі", "удыхана", "едзена", "дзе сейсяга"? А пачытайце пачатак пятага абзацу на с.8, дзе напісана, што арабскае пісьмо ідзе "зьлева направа". А ці дакладна запісаная па-беларуску фраза на с.8 пад арабскім радком: "За пажыткі дзякуюць, за нэндзу (*няхай*) церпяць"? У дужках — прапушчанае ў трансьлітарацыі слова.

Зусім неабгрунтаванае наступнае сьцьвярджэньне аўтараў: "Пра іншыя матэрыялы *гэтых зборнікаў* (маюцца на ўвазе зборнікі публікацый па матэрыялах тэматычных канфэрэнцый, якія ладзіліся з удзелам грамадзкага аб'яднаньня "Аль-Кітаб") і *такое літаратуры* часам проста няма чаго й сказаць"...

"Дарэмна шукаць вычарпальную інфармацыю пра Кітабы і ў Энцыкляпэдыі Гісторыі Беларусі", — пішуць далей С.Богдан і В.Гушча. Дык на тое гэта і энцыкляпэдыя — сьцісла, (бо аб'ём слоўнікавага артыкулу абмежаваны) але пра ўсё.

"Прыходзіцца часам сумнявацца і ў тым, што аўтар чытаў тыя кніжкі, пра якія піша, — скажам, легенду пра ўзьнясеньне Мухаммада на неба В.Несьцяровіч называе паэмай, хоць твор гэты ніяк пад азначэньне паэмы не падпадае". Што праўда, то праўда, памылковае азначэньне. Цяжка растлумачыць, чаму так напісалася. Але што з гэтага? Няўжо гэтая памылка ўнесла такое сумненьне? А што калі В.Несьцяровіч чытаў гэтую легенду? І ня толькі гэта?

Пішу пра гэта і думаю, ну чаму беларускамоўныя аўтары замалада пачынаюць з пагардліва-амбіцыйнага расштурхоўваньня іншых беларускамоўных аўтараў? Няўжо ж нельга было падказаць хоць такім чынам: легенда Мерадж напісана ў такой ступені ўрачыста, узьнёсла, з выкарыстаньнем вобразных сродкаў тагачаснай беларускай мовы, што асобныя аўтары памылкова называюць легенду паэмай?

Пры канцы публікацыі аўтары даводзяць перавагу арабскага пісьма пры трансьлітарацыі ўсходніх геаграфічных назваў і ўласных імёнаў. З гэтым можна пагадзіцца. "У расейцаў і эўрапейскіх народаў няма традыцыяў пісьма арабскімі літарамі, таму і даводзіцца ім прыдумляць розныя сыстэмы трансьлітарацыі", — пішуць С.Богдан і В.Гушча. Хіба што палякаў і сэрбаў не лічыць эўрапейцамі, бо ёсьць кітабы, напісаныя польскай і сэрбскай мовамі. "Але ж мы маем свой аліф, адпаведна і няма чаго нам вычварацца", — заключаюць аўтары.

Што праўда, то праўда. Вычварацца ня варта. У самы раз паставіць кропку.

**Віктар Несьцяровіч, Віцебск**

# Маланкаадвод сваімі рукамі

**Каб засьцерагчы свой дом ад перуноў, трэба мець громаадвод. Яго можна купіць, але каштаваць гэта будзе нятанна. Так, менская фірма "Ігур" прапануе громаадводы па 400 даляраў – замежны мэтал, гарантыя. Хоць, зрэшты, якая розьніца, ці той дрот будзе зь Гішпаніі прывезены, ці ў "зялезным магазіне" куплены. Калі няма лішніх грошай – скарыстайцеся нашымі парадамі й зрабіце громаадвод самі.**

Прылада гэтая складаецца з маланкапрыймача, токаадводу й заземляльніка абавязковым сячэньнем ня менш за 50 мм². Такое сячэньне мае дрот таўшчынёй 8 мм.

Маланкапрыймачы робяць са сталёвага дроту дыямэтрам 12—14 мм ці сталёвай трубы дыямэтрам 2—2,5 см і таўшчынёй сьценак 2,5 мм. Ейны верх сплюшчваюць ці заварваюць у выглядзе конусу. Каб не было іржы, трэба пафарбаваць яе алейнай фарбай. Вышыня маланкапрыймача не павінна перавышаць 2 м, яго мацуюць да дрэва ці высокае жэрдкі дзьвюма скобамі.

Токаадводы (сячэньнем ня менш за 50 мм²) праводзяць найкарацейшым чынам, пазьбягаючы петляў і вострых вуглоў, як найдалей ад электраправодкі. Токаадводы могуць быць зробленыя з аднароднай сталі. Усе злучэньні выконваюцца пры дапамозе зваркі аднабаковым ці двухбаковым швом даўжынёй ня менш за 100 мм. Да заземляльнікаў і маланкапрыймачоў токаадвод можна мацаваць з дапамогай двух нітоў ці трох клёпак. Пры "нітавых" злучэньнях на заземляльнік накладаюць канец токаадводу даўжынёй 120, а пры клёпкавых — 150 мм. У месцах мацаваньня токаадводу да мэталёвага даху фарбу выдаляюць, адзін канец токаадводу загінаюць круком ці пятлёй, ставяць з двух бакоў шайбы ды моцна зацягваюць нітом. Месцы злучэньня абгортваюць ізаляцыйнай стужкай, абмотваюць ніткай і зафарбоўваюць. Пад токаадводы можна выкарыстоўваць мэталёвыя канструкцыі (пажарныя лесьвіцы, рамы, арматуры жалезабэтонных элемэнтаў).

**Канструкцыі маланкапрыймачоў: 1 – з круглай сталі; 2 – са сталёвага дроту; 3 – са сталёвай трубы; 4 – з паласавой сталі; 5 – з вуглавой сталі**

Заземляльнікі можна рабіць са сталёвага дроту дыямэтрам ад 6 мм, сталёвых трубаў дыямэтрам ад 40 да 60 мм, сталёвых палосаў (таўшчынёй ня менш за 4 мм) і рознай профільнай сталі зь сячэньнем ня менш за 50 мм². Робячы заземленьне, трэба памятаць: чым меншая велічыня супраціўленьня, тым лепей. Заземляльнік трэба разьмяшчаць найменей за 5 м ад дарогі, ходнікаў, дзіцячых пляцовак і на адлегласьці 0,5—0,8 м ад фундамэнту будынку.

### 1

Для дому зь немэталёвым дахам падыдзе стрыжнявы маланкаадвод. Робяць яго звычай з жэрдкі ці бруса таўшчынёй 10—12 см, які мацуецца на сярэдзіне канька. Пры даўжыні дому 15 м, шырыні і вышыні ня больш за 7 м маланкаадвод вышынёй 5 м (ад канька) надзейна абароніць будынак ад маланкі. Увогуле, для надзейнай абароны будынку трэба рабіць маланкаадвод такой вышыні, каб уяўны конус зь вяршыняй у кончыку маланкапрыймача і вуглом нахілу 45 градусаў цалкам накрываў усю пабудову.




**Хата зь немэталёвым дахам і стрыжневым маланкаадводам: уяўны конус мусіць накрываць усю пабудову**

### 2

У вёсцы маланкаадводы яшчэ робяць прасьцей: з дроту дыямэтрам 8—10 мм, выкладаючы яго па каньку. З гэткім маланкапрыймачом злучаюцца драцяныя токаадводы, пракладзеныя па супрацьлеглых сьценах дому. Заземляльнік таксама робяць проста: капаюць канаву глыбінёй 0,8—1 м і па дне выкладаюць дрот, злучаны з токаадводамі.



**Маланкаадводы на хаце з мэталёвым дахам і прыбудовай (1 – маланкапрыймач; 2 – токаадводы з дроту і заземляльнікі)**

### 3

Калі на адлегласьці 4—5 мэтраў ад будынку з мэталёвым дахам расьце дрэва, вышэйшае за яго ў 2—2,5 разы, на ім на вышыні 14—18 м можна зладзіць маланкаадвод са сталёвага дроту. На адлегласьці 10—15 м абарона ад маланак будзе забясьпечаная.

### 4

Калі высокага дрэва побач няма, а на даху паставіць маланкаадвод немажліва, яго робяць з жэрдкі вышынёй 9—13 м, да якой мацуецца дрот. Гэта найбольш простая і надзейная мадэль. Складаецца такі громаадвод зь дзьвюх частак. Ніжэйшай (6—8 м і таўшчынёй 16—18 см) і верхняй, гэткай самай даўжыні, а таўшчынёй 10—12 см. Часткі замацоўваюцца міжсобку на даўжыню 1,5 м хамутамі. Маланкаадвод заглыбляецца ў зямлю на два і болей мэтры. Калі апора маланкаадводу мэталёвая, дрот павінен быць прывараны да яе.

**Абсталяваньне асобных маланкаадводаў**







**Хата зь немэталёвым дахам і маланкаадводам на дрэве**

Каб маланка ня трапіла ў тэлефонны дрот ці радыёантэну, трэба па ўсіх краях даху замацаваць токаадводы і злучыць іх з заземляльнікамі. Варонкі вадасьцёкаў надзейна злучаюць з дахам, а канцы труб зь зямлёю. Сячэньне дроту, што выкарыстоўваецца дзеля мацунку, мусіць быць ня меншым за 30—35 мм. Комін абараняюць мэталёвым каўпаком, што далучаецца да мэталёвага даху. Калі дах немэталёвы, па пэрымэтры верхняга краю коміна кладуць 6—8-мілімэтровы дрот, які таксама мацуюць да даху.

Штогод перад навальнічнымі тыднямі трэба правяраць трываласьць громаадводаў і маланкапрыймачоў, глядзець, каб іржа дзе не пераела дроту. Кожныя тры гады варта правяраць усе злучэньні паміж маланкапрыймачом і токаадводам, а кожныя пяць гадоў — трываласьць заземленьня.

**Матэрыялы тэмы нумару падрыхтаваў Эдвард Людовіч**

**Малюнкі ўзятыя з "Энцыкляпэдыі сельскага гаспадара"**

## Наша Ніва 90 гадоў таму

**Раманава**, Менск. губ. Слуцк. пав. Нашы сяляне ўсё яшчэ крэпка вераць, што запаленая сьвечка можа адвярнуць пярун, ды, відаць, забабон гэты ня хутка выветрыцца з галоваў цёмных людзей... Каб ведалі нашыя сяляне законы прыроды, то б яны ня сьвечкі палілі ў часе страшэннай буры, а паставілі б громаадводы на кожнай вуліцы і не замiралі б ад страху пры кожным громе за сваё меньне і жыцьцё.

Можна параіць Страхавому ад агню таварыству ў Слуцку, у каторым застрахаваны раманаўскія хаткі, у сваіх жа інтарэсах і дзеля карысьці таварыства ўткнуць у зямлю колькі грамаадводаў у Раманаве, каторыя ня дорага абыдуцца, а і таварыству будзе карысьць, і мястэчку добра зробяць.

Божа мой, якія мы яшчэ далёкія ад культурнага чалавека! Мы яшчэ, як дзікія людзі, баімося грому і маланкі.

Як зіхнець маланка і хораша рассыпецца па кругазоры, мы ад страху корчымся і, каб уміласьцівіць бога-грома, пачынаем паліць яму сьвечкі.

У дваццаты век і такі дзікі забабон!

**21 ліпеня 1911 г.**

**БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ**

# Звышдужыя коні

Рэльеф, расьліны і жывёльны сьвет на нашай тэрыторыі за сто гадоў практычна ня зьменяцца. Зацягнуцца азонавыя дзіркі. Рэкі й азёры стануць больш паўнаводнымі, глыбокімі, суднаходнымі й рыбнымі. На рэках збудуюць шмат гідраэлектрастанцыяў.

У космасе над Беларусяй будуць вісець генэратары сонечнага цяпла й сьвятла. Падача іх на нашую тэрыторыю будзе рэгулявацца зь Зямлі пры дапамозе спэцыяльнай электронікі. Атамныя й цеплавыя электрастанцыі зьнікнуць зусім.

Ніякіх новых расьлінаў ня зьявіцца, за выключэньнем спэцыяльна выведзеных генэтыкамі. Застануцца тыя самыя дрэвы, кусты, травы, ягады, грыбы. Зьбіраць будуць толькі сьпелыя журавіны, а ня горка-кіслыя й зялёныя, як зьбіраюць цяпер. А з грыбоў — пераважна баравікі, і прытым дарослыя, а не маладзенькія пупсікі. На радыяцыю правяраць ужо нічога ня будуць. Аціхне чарнобыльскі псыхоз, але ўзьнікне праблема кшталту Карабаху: тэрыторыі, атручаныя радыяцыяй, самачынна засяляць чужаземцы з Каўказу, якія захочуць стварыць там аўтаномію.

У басэйнах Заходняй Дзьвіны й Нёмана ізноў будзе многа вугроў ды іншай каштоўнай рыбы. Яршоў, кілбуноў, сляваў калі і будуць лавіць, дык хіба дзеці і для катоў.

Цераз 100 гадоў у Беларусі звышдужыя коні, выведзеныя генэтыкамі, заменяць трактары "Беларусь". Будуць выведзеныя таксама пароды сабак і катоў, здольных вывучаць мовы й размаўляць са сваімі гаспадарамі, але іхны слоўнікавы запас будзе абмежаваны.

На Лысай гары паўстане касмадром, каб рабіць турыстычныя палёты ў космас і на іншыя касмадромы Зямлі.

Цераз 100 гадоў ня будзе парлямэнтаў, прэзыдэнтаў, міністраў, судоў, турмаў. Усе дзяржавы стануцца проста гаспадарча-культурнымі адзінкамі Зямлі. У Маладэчне разьмесьціцца Інтэрнацыянальны гаспадарча-культурны цэнтар імя Г.Карпенкі, каб кіраваць гаспадарча-культурнымі справамі ўсіх краін. На працу туды возьмуць толькі найлепшых спэцыялістаў, адабраных па конкурсе, з дапамогай кампутараў. Сусьветны цэнтар будзе зьвязаны з нацыянальнымі цэнтрамі, а тыя, праз пэрсанальныя кампутары, — з грамадзянамі ўсіх краінаў. Кожны зможа атрымаць вычарпальны адказ на любое пытаньне, націснуўшы адпаведную кнопку. Ва ўсім сьвеце людзі стануцца памяркоўнымі, разважлівымі; будзе згода і дастатак у кожнага .

У гэтым стагодзьдзі дзясяткі мільёнаў людзей мангольскай расы, пераважна кітайцы, без вайны абжывуць Далёкі Ўсход і ўсю цяперашнюю расейскую тэрыторыю. У Расеі другой дзяржаўнай мовай стане кітайская. Дзьвюхгаловага арла кітайцы заменяць драконам. Надпісы й шыльды ўсюды будуць пераважна па-кітайску. На тэрыторыі Расеі кітайцы зьядуць усё, што расьце і жыве на зямлі, плавае ў вадзе і лётае ў паветры; яны будуць асыміляваць расейскую нацыю, жэнячыся з расейскімі красунямі.

Беларусь застанецца буфэрнай зонай паміж новымі манголамі і Захадам. NATO не дапусьціць акупацыі Беларусі, дый самі кітайцы ня будуць вельмі на яе квапіцца. Адно прымусяць многае перарабіць на нацыянальны лад, каб выглядала так, як у часе першага нашэсьця манголаў. Беларусь будзе перайменаваная ў Крывію, уся расейска-бальшавіцкая тапаніміка зьменіцца на крывіцкую. Усіх беларусаў загоняць у Дзьвіну, каб адмыць дрэнь, што наліпла з часоў Полацкага княства.

Фізычнае адраджэньне нацыі застанецца найбольш актуальнай праблемай праз 100 гадоў. Беларускія генэтыкі зробяць спробу вывадзіць беларусаў у апаратах, кшталту інкубатараў. Але гэты спосаб шырока не распаўсюдзіцца, бо супярэчыць чалавечай прыродзе.

Кітайцы прымусяць суседзяў вярнуць нам усе забраныя ў нас этнічныя землі Смаленшчыны. NATO падтрымае гэтую ідэю.

Па ўсёй Крывіі паўстануць помнікі змагарам за свабоду Беларусі. Так, у Менску паставяць помнік расейцу Валер'ю Шчукіну. Ён будзе стаяць на цяперашняй вуліцы Акрэсьціна ў Менску, якую таксама назавуць у гонар Шчукіна.

**Янка Мірон**

## Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Штотыдня — фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў рубрыцы "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

**"Наша Ніва" аднаўляе папулярную моўную рубрыку. У ёй — абмеркаваньне актуальных праблем культуры беларускай мовы, яе правапіснай, граматычнай і лексычнай нармалізацыі.**

**Наша літаратурная мова — у нашых руках. Таму — пішэце пра мову. Чакаем вашых допісаў.**

# Этэр або эфір?

Апошнім часам у практыцы карыстальнікаў несавецкага стандарту нашае літаратурнае мовы паўстала праблема выкарыстаньня беларускае формы слова грэцкага паходжаньня *aithēr* у розных яго значэньнях, у прыватнасьці, у значэньні асяродзьдзя, у якім пашыраюцца радыёхвалі. Асноўным дапаможнікам для носьбітаў мовы, арыентаваных на новаклясычную традыцыю асваеньня пазычаньняў, застаецца да сёньня праца В.Вячоркі "Правапіс. Спроба сучаснае нармалізацыі", надрукаваная ў часопісе "Спадчына" ў 1995 г. Мовазнаўца Вячорка на пытаньне пра напісаньне пазычаньняў з грэцкае мовы дае наступны адказ: "Грэцызмы або словы з фармантамі грэцкага паходжаньня могуць мець у мове-крыніцы літары [ph] – "фі" або [th] – "тэта". (...) У беларускай мове словы з грэцкаю тэтаю перадаюцца пераважна праз **т**: *артаграфія* (як *артадокс*), *міт, мітычны, міталёгія, патас* (параўн. аднакарэнныя *патэтыка, патэтычны*), *рытм, лягарытм, альгарытм, арытмэтыка, катэдра, этэр*".

Бадай, усё ясна: адпаведнік расейскага *эфир* – беларускі *этэр*. Але ня ўсе з гэтым згодныя – значная колькасьць носьбітаў мовы паўстае супраць ужываньня "незразумелага народу" *этэру*, спасылаючыся на "звычаёвасьць" *эфіру*. Цікава, што праблемы ўжываньня гуку **[т]** і адпаведнае літары на месцы грэцкае тэты не было да правапіснае рэформы 1933 г. Зьяўленьне праблемы – вынік, з аднаго боку, уплыву расейскае мовы, з другога – залежнай ад расейскае беларускай пасьлярэформавай традыцыі перадачы іншамоўных паходжаньнем словаў.

Да 1933 г. праблема была ў іншым – у суіснаваньні ў беларускай моўнай прасторы вымаўленчых адменьнікаў грэцкага слова *aithēr*. "Беларуска – расійскі слоўнік" М.Байкова й С.Някрашэвіча (Менск, 1926) падаваў такі варыянт: "Эт**а**р *м.* – эфир, эт**а**рны – эфирный"; тое ж – у "Расійска – беларускім слоўніку" (Менск, 1928) тых сама аўтараў: "Эфир – эт**а**р". А вось "Падручны расійска – крыўскі (беларускі) слоўнік" В. Ластоўскага (Коўна, 1924) падае іншую форму: "Эфир *м. грэцк.* – эт**э**р, этэр**ы**чны".



У кнізе "Беларуская навуковая тэрміналёгія. Вып.18. Слоўнік хэмічнае тэрміналёгіі. Ч.1. (Агульная хэмія)" (Менск, 1927) знаходзім форму з націскам на першым складзе: "Эфир – **э**тар". У даведніку "Беларуская навуковая тэрміналёгія. Вып.21. Слоўнік фізычнае тэрміналёгіі" (Менск, 1929) сустракаем дзьве формы з рознымі націскамі, што ня маюць сэмантычных адрозьненьняў: "Упругость эфира – пругкасьць **э**тару" пры "Эфир – эт**э**р, ~ гироскопический – ~ гіраскап**і**чны, ~ космический – ~ касьм**і**чны, ~ неподвижный – ~ нерух**о**мы, ~ подвижный – ~ рух**о**мы, ~ светоносный – ~ сьветлан**о**сны, ~ этиловый – ~ этыл**ё**вы", але разам з гэтым: "Эфирный ветер – **э**тарны в**е**цер".

Акцэнталягічны варыянт ***э**тар* (з пачатным націскным) можна тлумачыць польскім (*eter*)/лацінскім (*aethēr*) пасярэдніцтвам пры пазычэньні слова. Форма *эт**а**р* больш складаная для высьвятленьня – пры захаваньні канцавога – "грэцкага" – націску найхутчэй ужо на беларускім грунце адбылася замена этымалягічнага **[е]** на **[а]**).

Слоўнік "Тэхнічная тэрміналёгія. Вып.1" (Менск, 1933) пад рэдакцыяй А.Гурла прапануе толькі адну форму: "Эфир – эф**і**р". Гэта, бадай, адзіны прыклад лексыкаграфічнае нармалізацыі варыянту *эфір* да моўнае рэформы 1933 г. (*эфір* – з расейскага *эфир*, якое ў сваю чаргу – з заходнеэўрапейскіх моваў, але з штучна зьмененым на расейскай (кніжнай) глебе вымаўленьнем на ўзор познагрэцкага – з **[ф']**). У пастанове СНК БССР "Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу" гаворыцца: "Іншамоўнае "th" (т) (...) пісаць пераважна праз "ф": *арыфметыка, арфаграфія, лагарыфм, пафас, міф, Афіны, кафедра*, але – *тэатр, тэзіс, тэорыя, метад*". Ад сярэдзіны верасьня 1933 г., калі пачала ўжыцьцяўляцца рэформа беларускага правапісу, у мове публікаваных у БССР газэт, навуковых выданьняў і слоўнікаў запанавала толькі форма *эфір*.

Сёньня, пры спробах рэанімацыі беларускае формы *эт**э**р*, довадам на яе карысьць можа быць афармленьне разгляданага грэцызму ў іншых эўрапейскіх мовах. *"Російсько – український сучасний словник"* прапануе два варыянты перакладу ўва ўкраінскую мову расейскага слова *эфир*: "Эф**и**р – ет**е**р, еф**і**р; эф**и**рный – еф**і**рний". Відавочна, ува ўкраінскай мове суіснаваньне дзьвюх формаў мае тыя самыя падставы, што й у нашай мове – паступовы пераход ад расейскіх калек да формаў, бліжэйшых да старагрэцкіх іськікаў. У іншых мовах праблемы суіснаваньня *этэр – эфір* няма. Да прыкладу, *"Русско – латышский словарь"* перакладае: "Эф**и**р (-а) – а) *хим. ēteris*; сложный э. – *ēsteris*; б) 1. (в мировом пространстве) *ēters*; мировой э. – *pasaules ēters*; 2. *перен. debess dzīles*". *"The Pocket Oxford Russian Dictionary"* падае: "Эф**и**р, -а – *ether, air*, эфирный – *ethereal; ether, ester;* -ое масло – *essential oil, volatile oil*". У *"Русско – немецком словаре"* чытаем: "Эф**и**р *м. в разн. знач.* – *Äther m* -s; сложный ~ *хим.* – *Ester m* -s".

Гэткім парадкам, не павінна заставацца ніякіх сумневаў у правільнасьці й прымальнасьці формы *этэр*. Аднак у цяперашніх умовах функцыянаваньня беларускае мовы і форма *эфір* можа ўважацца за варыянтную, хаця гэткая варыянтнасьць і не на карысьць самой мове.

**Віктар Мухін, Менск**

# Much Ado about Nothing

"НН" у №211 зьмясьціла пералік праблемаў, якія абмяркоўвалі ўдзельнікі нарады па пытаньнях упарадкаваньня клясычнага правапісу, што адбылася 3 студзеня. Чытаю: "Існуе праблема напісаньня **-э** або **-а** ў фіналях іншамоўных слоў (*міністар,* але *містэр, кадар,* але *лідэр*)". Думаю, гэтая праблема ня вартая абмеркаваньня, бо кантэксты тут вельмі розныя. Галосны ў канцы слова *кадар* ня мае нічога супольнага з галосным у канцы слова *лідэр* з тае прычыны, што ў *кадры* галосны ўстаўны, ягоная функцыя – зрабіць магчымым складападзел. Беларускі складападзел базуецца на санорнасьці (спрашчаючы справу, можна было б сказаць, што чым бліжэй да санорнага, тым больш санорным павінен быць зычны). Калі прааналізуем корань *кадар*, пабачым, што спалучэньне *-др* на канцы парушае прынцып санорнасьці, бо гук **[д]** менш санорны за гук **[р]**. Адсюль устаўка галоснага **[а]**: *ка-дар.* Натуральна, у пазыцыі, калі складападзел магчымы дзякуючы, прыкладам, галоснаму ў канчатку, устаўленьня няма: *кад-ра-мі*, а ня **ка-да-ра-мі.* Што ж да галоснага ў слове *лідэр*, дык ён не ўстаўны, ад самага пачатку ёсьць часткаю адпаведнае марфэмы й захоўваецца ўва ўсіх формах (параўн.: *лідэр – лідэрам*, а ня *лідэр – *лідрам*). Гэтае **[а]** ў слове *кадар* зусім не зьяўляецца вынікам аканьня тыпу *кадэр – кадар!* А нават калі дапусьціць, што ўстаўным першапачаткова зьяўляецца **[э]**, які потым падпадае пад аканьне, з гледзішча моўнае тыпалёгіі няма нічога дзіўнага ў тым, што нейкі працэс (у нашым выпадку аканьне) стасуецца да ўстаўных галосных, а не стасуецца да галосных, якія ёсьць часткаю кораня або іншых марфэмаў.

Чытаем далей: "Існуе разнабой у склонавых формаў назоўнікаў на *-тар* (*міністар – міністра, кампутар – кампутара*)". Дык такіх "разнабояў" у нашай мове хоць гаць гаці. Да прыкладу, чаму гэта, шаноўныя, *сон – сну*, але *дом – дому*. Узяць ды зуніфікаваць: *сон – сну, дом – ... дму.* От будзе парадак! Ізноў жа, праблему бачаць там, дзе яе й блізка няма. У канцы слова *міністар*, як ужо растлумачана вышэй, **[а]** – устаўны. Адпаведна, пры дадаваньні канчаткаў устаўнога галоснага няма, бо складападзел робіцца магчымым дзякуючы галосным у канчатках: *мі-ні-стра*, а не **мі-ні-ста-ра.* У словах тыпу *кампутар* галосны ў заканчэньні *-тар* не ўстаўны; менавіта таму ён захоўваецца, калі дадаецца канчатак: *кам-пу-тар, кам-пу-та-ра*, а не **кам-пут-ра.* Няма тут, як папраўдзе, разнабою.

Чытаем: "Ці дапушчаецца напісаньне **ў** пасьля зычных і на пачатку слоў у пазычаньнях (*Франсўа,. Ўолтэр*)". Цалкам сур'ёзна разглядаецца разбурэньне аднае з найбольш адметных карэляцыяў у беларускай мове – карэляцыі **[в]** – **[ў]**. З пункту гледжаньня традыцыйнае фаналёгіі, у нашай мове гэтыя гукі зьяўляюцца варыянтамі аднае фанэмы й знаходзяцца ў дапаўняльнай дыстрыбуцыі. Калі казаць прасьцей, там, дзе можа зьявіцца **[в]**, ніколі ня можа зьявіцца **[ў]**, і наадварот. Тое, што мы па-беларуску гаворым *вада*, а не *ўада*, і *галоў*, а не *галов*, аўтаматычна выключае раз і назаўсёды магчымасьць вымаўленьня (а таму й напісаньня) **ў** на пачатку складу перад галосным. Перафразуючы нашага земляка Дастаеўскага, калі **[ў]** можа зьявіцца перад галосным, значыць, усё дазволена.

Цяпер што да праблемы выбухнога **[ґ]** і фрыкатыўнага **[г]**. Ужо цягам прынамсі пяцёх стагодзьдзяў беларуская мова, пазычаючы словы зь іншых, захоўвае выбухное **[ґ]**. У старабеларускім пісьменстве яно перадавалася галоўным чынам праз спалучэньне **кг** (гл., прыкладам, Баркалабаўскую кроніку). У XX ст. для перадачы гэтага гуку выкарыстоўвалі літару **ґ**. Вяртаньне яе ў беларускую абэцэду, такім чынам, згоднае зь пісьмовымі традыцыямі. На гэта можна было б запярэчыць, што гэты гук зьнік з народнага маўленьня. Можна было б... калі б гэта было праўдай. Маёй сьв. памяці заходнебеларускай бабулі нават да галавы б не прыйшло, што з фрыкатыўным **[г]** можна вымавіць словы *маґазын, ваґон* альбо назву ейнага ўлюбёнага напою: *ґазвада.* У вымове маёй усходнебеларускай матулі, для якой усё, што на захад ад Слуцку, – Польшча, і *ґанак*, і *ґвалт*, і *ґузік*, і нават *Ґена*. Ды што спасылацца на ўласны досьвед, калі можна, да прыкладу, узяць "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча", выдадзены свайго часу Інстытутам мовазнаўства АН БССР, і выпісваць словы з выбухным **[ґ]** ня тое што тузінамі, а ледзь ня сотнямі. Тое, што ў маўленьні вялікай колькасьці беларускамоўных людзей зьнікае выбухны **[ґ]**, гэта, як ні парадаксальна, беспасярэдні вынік русіфікацыі і ўплыву зрусіфікаванае наркамаўкі. Рэч у тым, што ў расейскім вусным стандарце няма карэляцыі **[г]** – **[ґ]**. Менавіта таму ў наркамаўцы таксама няма гэтае карэляцыі, але вынік уніфікацыі адрозны: замест паўсюднага выбухнога (як у расейскай) распаўсюдзіўся паўсюдны фрыкатыўны. Няўжо мы нават у тарашкевіцы маем захаваць вынік асыміляцыі? Няўжо трэба адмовіцца ад сыстэмы перадачы запазычаньняў, якой ужо з паўтысячы гадоў, толькі таму, што некаму здаецца, што "праблема літары **ґ** надуманая"?

Вельмі добра, што свайго часу сп.Вячорка надрукаваў праект правапісу, што дало штуршок дыскусіі над яго ўдасканаленьнем. Вельмі добра, што нарэшце зрушыла зь месца справа нармалізацыі тарашкевіцы й яе дастасаваньня да цяперашніх патрэбаў. Ёсьць ужо й пазытыўныя вынікі (прыкладам, замацаваньне пераходу **і** ў **й** пасьля галосных). Аднак трэба памятаць, што праца энтузіястаў мае як плюсы, гэтак і мінусы. З аднаго боку – шчырасьць у працы, з другога, на жаль, – непазьбежная ў такім выпадку партызаншчына, пра якую ў інтэрвію Радыё Рацыя казаў сёлетняй вясной праф.Падлужны. Шкада, што такія выдатныя постаці, як праф.Падлужны, чые працы з фанэтыкі наркамаўскага варыянту беларускае мовы застаюцца неперасягненым узорам беларускага мовазнаўчага дыскурсу, ды ўвогуле "дзяржаўнае" мовазнаўства не цікавяцца праблемай нармалізацыі несавецкага правапісу й праблемай існаваньня дзьвюх сыстэмаў беларускае мовы...

**Андрэй Дубіна, магістар факультэту нэафілялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту**

## АД РЭДАКЦЫІ

Вось як праблема выбару зычнага пры адаптацыі грэцызмаў — **т** ці **ф** — паказаная ў грунтоўнай працы Янкі Станкевіча "Да вымовы й правапісу чужых словаў", друкаванай у 1930 г. у віленскім мовазнаўчым часопісе "Родная мова" (для цікавасьці падаем правапісам арыгіналу):

"*У грэцкај мове было асьпіраванае* (г.зн. прыдыхальнае, утваранае церцем паветра аб галасавыя зьвязкі без напружаньня апошніх — **Ю.Б.**) ***th****, абазначанае літарај θ. Пасьлеј грэцкае асьпіраванае* ***th*** *перајшло ў* ***ф****, хоць абазначэньне яго асталося старое. Калі менаваны гук у Грэкаў быў яшчэ сьпірантам, Рымляне перајмалі ўжо тады грэцкія словы і гэны гук абазначалі пры помачы* ***th****. Ад Рымлян грэцкія тэрміны разыјшліся па ўсім сьвеце з вымовају грэцкага θ як* ***т****. І ў Беларусаў грэцкае θ прынята перадаваць пры помачы* ***т*** *(****тэатр, арытмэтыка****), бо 1) гэтак яно вымаўлялася ў старую пару самое грэцкае мовы, 2) гэтак вымаўляецца ў мове лацінскај, пераз каторую пашырылася ўсюды і ў нас (...).*

Славяне перајмалі грэцкія словы (блізу вылучна хрысьцянскія јімёны) тады, калі грэцкае θ вымаўлялася як **ф**. Дык у беларускіх праваслаўных јімёнах зьявіўся **ф**, каторы перајшоў у **п** (**Піліп, Панас**), **хв** (**Хведар, Хвядос**), **х** (**Хама**). Гэткая хворма падобных јімёнаў правільна ўжываецца ў беларускај мове побач із хвормамі, у каторых адбілася пасярэдніцтва лацінскае (**Тамаш, Тодар**).

*Адцеміць яшчэ трэба, што ў беларускај мове назовы грэцкіх мясцовасьцеў (месты, гарады, астравы і г.д.), існуючых цяпер, ужываюцца паводле јіх грэцкае цяперашняе вымовы, значыцца грэцкае θ перадаецца пераз* ***ф*** *(****Афіны****)*".

Тым часам у падручніку беларускае мовы "*Fundamental Byelorussian*" (Таронта, 1974—78) Валянтыны Пашкевіч, дзе фактычна адлюстраваныя пасьляваенныя (эміграцыйныя) нормы новаклясычнага стандарту літаратурнае мовы, маем пра разгляданую праблему шмат сьцісьлей, аднак амаль аналягічнае:

"Лацінскае **ph** ды іншамоўнае **f** = **ф**, а **th** = **т**, прыклады:

ф: факт, форма, фронт, **ф**ілязофія, тэлегра**ф**, рэльеф

**т**: **т**эатар, ка**т**эдра, каталік, ар**т**аграфія, лягары**т**м, ары**т**мэтыка, А**т**эны,

як: Тамаш, Тодар, Агата".

Розьніцу, параўноўваючы высновы зь дзьвюх цытат, заўважым адно ў трактоўках перадачы зычных у *Афінах — Атэнах*, то бо ўва ўласных назовах. Лацінізаваная форма ці ўсё ж арыентаваная на сучаснае грэцкае вымаўленьне? Які падыход слушнейшы? Наагул, арыентацыя пры асваеньні іншамоўных уласных імёнаў на арыгінальныя гукавыя характарыстыкі лічыцца сёньня ў сьвеце аптымальнаю, гэта ўсясьветная практыка — то ці ж ня варта прыняць нам аргумэнты Янкі Станкевіча?

**Юрась Бушлякоў**



# Зьдзек з мовы

"Курэньне – гэта зьдзек над прыродай". Пасьля такое рэклямы ўзьнікае жаданьне ня толькі пару цыгарэт выпаліць, але й забрахаць, як тая котка з рэклямы "Як важна размаўляць на розных мовах". Сапраўды, ніхто й не спрачаецца з важнасьцю валоданьня іншаю моваю, але й на сваёй мове размаўляць таксама не апошняя справа. Адным словам, "такі пераклад – гэта зьдзек зь беларускай мовы". Так што пасьля словаў "рэклямная паўза", можа, лепей пайсьці й папіць булёнчыку "Галіна Блянка" ("каханьне зь першай лыжкі") ці схадзіць на ноч пажыральнікаў рэклямы, толькі шмат ня ежце, а то званітуеце.

**Наталька Базылевіч, Менск**

# Тэрміналёгія

Маё глыбокае перакананьне – навуковая тэрміналёгія ня можа абысьціся без запазычаньняў. Яна даўно не беларуская, не расейская, а інтэрнацыянальная; калі я ўбачу ў ангельскім тэксьце *entropy* ці ў нямецкім *Entropie*, я заўсёды зразумею: размова ідзе пра *энтрапію*. Навуковы тэрмін трэба разглядаць проста як набор гукаў ці літараў, які безварыяцыйна азначае пэўнае паняцьце; што яшчэ стаяла за гэтымі гукамі ў роднай для іх мове, на пачатковай стадыі вывучэньня дысцыпліны ўвогуле лепш ня ведаць, бо пачнецца блытаніна ў галаве. Прыклады: *атам* (гр. *atomos* 'непадзельны'), *уран* (гр. *uranos* 'неба'), *файл* (англ. *file* 'падшытыя паперы; картатэка').

Здавалася б, вось яно, неўзаранае поле для сапраўдных беларускіх лінгвістаў-наватараў? Шлях шкодны. Гэта быў бы яшчэ адзін фактар, які адразаў бы нас ад сусьветнай цывілізацыі.

Што ж да запазычаньняў з расейскай мовы, то тут я сьцішу сваю катэгарычнасьць. Працаваць ёсьць над чым. Але зноў жа – не перабраць, не кіравацца прынцыпам «абы не». Прывяду прыклад з маёй роднай хіміі. У эпоху рамантызму 1990-х шэраг аўтараў прапаноўваў замяніць тэрмін *раствор* на *рошчыну*, што на першы погляд здавалася абсалютна лягічным. Сапраўды, *рашчыняць* – гэта зьмешваць цьвёрдае цела з вадкасьцю; сама *рошчына* вядомая беларусу спакон веку. Ды вось толькі не ўлічылі, што тэрмін *раствор* даўно жыве сваім асабістым жыцьцём і азначае не любую дыспэрсную сыстэму, а толькі гамагенную (патлумачу, што традыцыйная *рошчына* – сыстэма не гамагенная, а гетэрагенная). Прапанаваная замена, можа, і ідэальная з пункту гледжаньня лінгвіста, выглядае непрымальнай з гледзішча зацікаўленага карыстальніка – хіміка.



Так ужо склалася, што ў навуцы й тэхніцы цяперашнім часам асноўныя пераймальні ідуць з ангельскай мовы. Добра было б, каб «НН» замовіла ў спэцыялістаў і потым надрукавала ясныя правілы пераносу ангельскай тэрміналёгіі беспасярэдне ў беларускую. Можа, тады я нарэшце зразумею, чаму трэба вымаўляць *кампутар*, а не *камп'ютар*, а гэта ж бліжэйшы да арыгінальнага гучаньня варыянт. Альбо чаму *hit* і *hacker* з амаль нячутным прыдыханьнем **h** ператварыліся ня ў *хіт* і *хакер*, а ў *гіт* і *гакер* (самы цымус: *hot-dog* = *гот-дог*, дзе адным і тым жа гукам **[г]** замененыя і прыдыханьне **h**, і выбухны **g**)? Ці прыйшла ўжо пара пісаць *гіндзі*, *гіпі* ды *гакей*?

Наконт **h–г** я маю гіпотэзу. Уся прычына ні ў якіх ня ў правілах, а ўва ўлюбёнай нашаніўцамі лацінцы: *hit* (англ.) = *hit* (бел. лац.) = *гіт* (бел. кір.). Так?

**Аляксандар Рагойша, Менск**

## АД РЭДАКЦЫІ

Маеце рацыю: тэрміналёгія ніводнае мовы без інтэрнацыяналізмаў не абыходзіцца. Аднак жа імі не вычэрпваецца. Беларускія тэрмінолягі 1920-х сьпярша ўзяліся былі інтэрнацыянальныя словы актыўна перакладаць, але пакрысе дайшлі да рацыянальнае пурыстычнае пазыцыі. Пазыцыя гэтая гарантавала гарманічнае разьвіцьцё беларускае тэрміналягічнае сыстэмы з апораю на ўласныя рэсурсы пры адноснай адкрытасьці на інтэрнацыянальны матэрыял. З 1930-х, ведама, на гэтых прынцыпах быў пастаўлены крыж. Інтэрнацыяналізмамі, лішне казаць, нашая мова абдзеленая ў пазьнейшыя дзесяцігодзьдзі не была — прынамсі, санкцыянаваліся ў ёй тыя зь іх, што мела мова расейская. А вось традыцыйным (побытавым) беларускім словам у тэрміналёгіі савецкага пэрыяду месца нярэдка не было: квітнела згубная для мовы тэндэнцыя пазбаўляць беларускае слова магчымасьці разьвіваць спэцыяльнае (тэрміналягічнае) значэньне — выконваць функцыю тэрміна. І зьявіліся памагчы нашай мове *башмакі* (пад коламі вагонаў), *паталок* (над крылом самалёта), *кукалка* (пры росьце вусяка), *учот* з *учотчыкам* (пры ўліку кадраў) і многія іншыя братнія словы. Так і для *рашчыны* (*рошчыны*) не знайшлося месца сярод хімічных тэрмінаў — пад рукою быў сымпатычны расейскі *раствор*. Тэрмінолягам 1920-х, у тым ліку й хімікам, ён не спатрэбіўся — яны дастасавалі традыцыйнае слова. Трэба падкрэсьліць, што пашырэньне яго сэмантыкі зь 'цеста на дражджох або з закваскаю, якое пасьля замешваюць' на 'ўсякую аднародную вадкасьць (сумесь), атрыманую распушчэньнем якога-н. рэчыва ў вадзе або ў іншай вадкасьці' мае зусім ня штучна-лябараторны характар — яно адбылося ў жывой народнай мове (перакáнаецца ў гэтым кожны, зірнуўшы ў слоўнікі Шатэрніка, Касьпяровіча ці Станкевіча). Увогуле, выкарыстаньне *рошчыны* ў значэньні ўжыванае пры будаваньні аднароднае сумесі глеістага матэрыялу, пяску й вады мела за савецкім часам рэгулярны характар і нават знайшло шчодрае адлюстраваньне ў шматтомным акадэмічным слоўніку беларускае мовы (ТСБМ). Дык жа абсалютна натуральным быў ход айчынных тэрмінографаў 1990-х — пераняўшы мэтадалёгію сваіх папярэднікаў з пачатку стагодзьдзя, яны аддалі перавагу *рашчыне*. Дазволю тут дапушчэньне, што, выбіраючы між двума акцэнталягічнымі варыянтамі, яны пастанавілі "спэцыялізаваць" менш частотную ў літаратурным кантэксьце форму з другім націскным складам, пакідаючы за *рошчынаю* яе першапачатнае "цеставае" значэньне (украінцы яшчэ ў 1920-я г. разьвялі былі *розчину* 'цеста' з *розчином* 'аднародная вадкасьць, сумесь' паводле родавай прыкметы). Дарэчы будзе паказаць тут цэлае славаўтваральнае гняздо, якое бярэ пачатак ад тэрміналягізаванай *рашчыны*: *рашчыненьне, рашчыннасьць, рашчынны, рашчыньнік, рашчыняльны, рашчыняць*. Усе гэтыя словы зафіксаваныя ўжо ў спэцыяльных слоўніках (знойдзем іх, да прыкладу, у "Расейска-беларускім хімічным слоўніку" (1993) і "Руска-беларускім фізічным слоўніку" (1994).

Што да англіцызмаў, то варта праканстатаваць пэўныя тэндэнцыі ў іх асваеньні. Беручы пад увагу той факт, што многія з гэтых словаў маюць лацінскае паходжаньне або ўтвораныя на базе лацінскіх/грэцкіх каранёў, пасобныя ўдзельнікі сучаснага моватворчага працэсу схільныя да адаптаваньня іх паводле даўняе традыцыі перадачы беларускаю моваю лацінізмаў. Такім чынам, пры названым падыходзе ў англіцызьме праяўляецца лацінскае/грэцкае першаабліччa кораня: *дыстрыбутар* (*distributor* < лац. *distributio* 'разьмеркаваньне'; параўн.: *дыстрыбуцыя, дыстрыбуцыйны*), *кампутар* (*computer* < лац. *computare* 'лічыць, вылічаць'; параўн.: ст.-бел. *компутъ* 'рэестар, сьпіс; рахунак'), *прадусар* (*producer* < лац. *producere* 'вырабляць, ствараць'; параўн. з аднакаранёвымі лацінізмамі: *прадукаваць, прадукт, прадуктыўны, прадукцыя, прадукцыйны, прадуцэнт*), *футуральная* (угода, апэрацыя) (*futures, futures deal* < лац. *futurum* 'будучыня'; параўн.: *футуралёгія, футурызм, футурыст*) і інш.

Імкненьне пры адаптацыі англіцызмаў **пасьлядоўна** перадаваць гук, абазначаны літараю **h**, праз беларускі фрыкатыўны **[г]** і адпаведна кірылічную **г** на пісьме прыйшло да нас з мовы паваеннае беларускае эміграцыі — у часе моўных дыскусіяў 1990-х прадстаўнікі эміграцыйнага боку ці раз канцэнтравалі ўвагу на важнасьці такое перадачы. Маўляў, гэта расейцы ня маюць літары на абазначэньне шчылiннага гуку **[г]**, за літараю **г** у літаратурнай расейскай мове стаіць гук іншага ўтварэньня — выбухны **[ґ]**, таму й перадаюць яны ангельскі шчылінны пераважна праз **х** — у нас жа літара **г** пазначае, з рэдкімі выняткамі, якраз традыцыйны беларускі шчылінны, і таму яна на месцы **h** у англіцызмах (таксама як **г** на месцы **h** у беларускіх пазычаньнях з грэцкае, лацінскае, нямецкае ды іншых моваў).

Такім чынам, падставаю для абазначэньня **h** праз **г** — аднолькавы спосаб утварэньня перадаваных гэтымі літарамі гукаў: пры гэтым, праўда, і нефанэтысту ясна, што ангельскі фрыкатыўны **[h]** нятоесны ані нашаму **[х]**, ані **[г]**, што гэта падобны да нашых, але іншы гук (дарэчы, згаданы ў лісьце фактар лацінкава-кірылічнае паралелі **h — г** таксама меў/мае значэньне для станаўленьня разгляданае тут літарна-гукавое адпаведнасьці). Аднак, як бы ні суадносіліся гукі, за абазначэньнем **h** праз **г** нельга ня бачыць сыстэматызацыйнае ролі — гэта фактычна перадумова аднастайнасьці пры далейшай адаптацыі англіцызмаў. Тая несыстэмнасьць пры перадачы **h** у пазычаньнях з ангельскае, якую выразна ілюструюць факты беларускае літаратурнае мовы савецкае нармалізацыі — ня што іншае, як вынік абумоўленасьці беларускіх формаў англіцызмаў расейскімі. Так, пры адаптацыях *гаймарыт* (ад прозьвішча ангельскага анатама *Highmore*), *Галівуд* (*Hollywood*), *гамбургер* (*hamburger*), *гандбол* (*handball*), *гандыкап* (*handicap*) маем *хайвэй* (*highway*), *хайрынг* (*highring*), *халакост* (*holocaust*, ад гр. *holos* + *kausis*), пры *гемлак* (*hemlock*), *гемпшыры* (ад назову графства *Hempshire*) — *хедж* (*hedge*), *хет-трык* (*hat trick*), *хэпенінг* (*happening*) і г. д. (гл. "Слоўнік іншамоўных слоў" (1999) А. Булыкі).

Ад паказанае абумоўленасьці/залежнасьці афармленьне англіцызмаў з **г на месцы h** можа беларускую мову паступова вылечыць. Пытаньне — наколькі пры гэтым мэтазгоднае й магчымае перазасваеньне тых частотных словаў, якія трывала засвоеныя носьбітамі нашае мовы ў мэтраполіі з **[х]**? Яшчэ пытаньне — колькі ў мове такіх "трывала засвоеных" англіцызмаў? Скажам, удзельнікі менскіх правапісных нарадаў 2001-га абмежавалі сьпіс выняткаў шасьцю словамі: *хакей, хобі, хол, хук, хуліган, хэпі-энд*. Ці змогуць не папоўніць яго ўзуальныя *хакер, холдынг, хард-рок* з *хэві-мэталам*, *хон*, каб ня блыталі інструмэнт з *гонам*? Гэтае апошняе пытаньне я пакідаю на суд чытачоў "НН".

**Юрась Бушлякоў**

### Адрасы беларускіх школаў у Менску

| Раён гораду | Школы | Адрас |
|---|---|---|
| Заводзкі | 68 | зав.Ахоцкі, 17 |
| Заводзкі | Гімназія №14 | Васьняцова, 10 |
| Заводзкі | 131 | Убарэвіча, 74 |
| Кастрычніцкі | 89 | Пухавіцкая, 21 |
| Кастрычніцкі | 110 | Берасьцейская, 66 |
| Ленінскі | 2 | пр.Ракасоўскага, 93 |
| Маскоўскі | 60 | Лібкнэхта, 82 |
| Партызанскі | 72 | Халмагорская, 59 |
| Першамайскі | Гімназія №9 | Сядых, 10 |
| Першамайскі | 190 | Нікіфарава, 19 |
| Фрунзэнскі | Гімназія №4 | Кунцаўшчына, 18 |

### Адрасы школаў зь беларускамоўнымі клясамі

| Раён гораду | Школы | Адрас |
|---|---|---|
| Заводзкі | 131 | Убарэвіча, 74 |
| | 210 | Бачылы, 13 |
| Кастрычніцкі | 1 | Чкалава, 3а |
| | 11 | Асаналіева, 18 |
| | 30 | Жукоўскага, 11 |
| | 52 | Кіжаватава, 70 |
| | 71 | Каржанеўскага, 29 |
| | 90 | Быхаўская, 14 |
| | 97 | Казінца, 118 |
| | 168 | Жукоўскага, 10, к.5 |
| Ленінскі | 15 | Якубава, 12 |
| | 40 | Фабрычная, 27 |
| Маскоўскі | 3 | 3-ці Чыгуначны, 16 |
| | 145 | Алібегава, 5 |
| | 168 | Рафіева, 7 |
| Партызанскі | 86 | Чапаева, 11 |
| | 108 | Уральская, 15 |
| Першамайскі | 70 | Каліноўскага, 34 |
| | 84 | Панамарова, 11 |
| | 115 | Кедышкі, 13-а |
| | 137 | Каліноўскага, 50,к.2 |
| | 177 | Шугаева, 19, к.1 |
| | 184 | Шугаева, 15, к.1 |
| | 197 | Гарадзецкая, 14 |
| Савецкі | 23 | пр.Скарыны, 45 |
| | 66 | Шырокая, 30 |
| | 147 | Мірашнічэнкі, 35 |
| | 187 | Куйбышава, 65 |
| Фрунзэнскі | 38 | Бельскага, 59-а |
| | 81 | Альшэўскага, 70 |
| | 96 | Пушкіна, 12 |
| | 138 | Адоеўскага, 34 |
| | 176 | Адзінцова, 89 |
| | 211 | Шаранговіча, 42 |
| Цэнтральны | 35 | Старавіленскі тракт, 30 |
| | 37 | Азізава, 6 |
| | 104 | Шчадрына, 46-а |

# Пра пачуцьці лепшыя і горшыя

Мікола Раманоўскі

**Другі дзясятак гадоў апазыцыя жаліцца, што народ яе ня слухае, бо яму толькі каўбаса ў галаве. Сяргей Дубавец (ці нейкі яго суразмоўца) падвёў быў пад гэта тэарэтычную базу: "Беларусы ня вераць у свае абстракцыі". Тым часам улада будуе сваю прапаганду далёка ня толькі на каўбасных настроях. "Інтэграцыя з Расеяй" — або гэта не абстракцыя? Не "свая", вядома. Але ўся афіцыйная ідэалёгія трымаецца на такіх адцягненых панятках. Колішні "камунізм" — гэта ж быў не каўбасны рай, гэта было грамадзтва справядлівасьці. Ідэя дружбы народаў (пакідаючы ўбаку яе рэалізацыі) далёка ня зводзіцца да каўбасы. Дый іншыя ідэі, якія замацаваліся ў савецкія часы і якім ніяк ня можа даць рады нацыяналістычная ідэалёгія, — таксама абстракцыі не каўбаснага кшталту.**

Выходзіць, беларусы ў некаторыя абстракцыі верыць такі ўмеюць. Адно што не ў свае. Дык можа нешта ня тое якраз са сваімі абстракцыямі?

Бо замест гэтага часта чуваць, што нешта ў нас ня тое са сваім народам. Народ у такіх развагах выступае як стыхійнае няшчасьце. Мы ўсё слушна рабілі — аралі, сеялі, але прыйшоў ураган (паводка, пажар, саранча) і нашу працу панішчыў. Лягічна было б тады змагацца з гэтай саранчою, але трэба, наадварот, яе перавыхоўваць на пчолак... Прыгадваецца прыпавесьць з Талмуду — пра тое, як анёлы пералічылі Богу ўсе грахі Ізраілю і спыталі: чаму Ты не сьцярэш яго з аблічча зямлі? На што Той адказаў: другога Ізраілю ў мяне няма.

Чытаючы год за годам апазыцыйныя газэты, цяжка не задумацца: няўжо людзі ў нас настолькі дурныя, што не разумеюць, як ім будзе лепш пры заходняга кшталту эканоміцы? "Народная воля" недзе раз на месяц друкавала артыкулы пра тое, як добра жывецца ў Летуве, Латвіі, Польшчы ды нават Украіне. Дый людзі не сьляпыя — хто сам ня езьдзіў у тую ж Польшчу ці Летуву, у таго езьдзіў сусед, калега, сваяк. Нават БТ, здаецца, перастала расьпісваць жахі капіталізму на польскім ці літоўскім прыкладзе. І ўсё роўна мноства людзей рэгулярна выказваюцца за Расею і супраць Захаду, за сацыялізм і супраць капіталізму.

Напэўна ж, не таму, што дурныя. Але апазыцыйныя контрапрапагандысты, здаецца, мала зважаюць на тое, што, уласна, думае іх аўдыторыя. Такое ўражаньне, што апазыцыянэр, пачуўшы — ад суседа ў чарзе ці ад журналіста ў "Советской Белоруссии" — як той ня любіць апазыцыі (Пазьняка, нацыяналістаў, дэмакратаў, трасцы, хваробы) — адразу кідаецца бараніць атакаваную (сваю!) абстракцыю, ня даўшы сабе клопату спытаць: а чаму вы так думаеце?

Досыць часта на гэта людзі адказаць нічога толкам ня могуць, бо паўтараюць з чужых словаў. Але натрапіўшы на каго разумнейшага, можна пачуць вельмі характэрныя рэчы. "Яны ўсе здраднікі, — скажуць вам. — Вось літоўцы: яны жылі лепш за ўсіх нас, але захацелі яшчэ лепшага жыцьця і прадаліся Захаду". Польшча таксама добра жыве, бо прадалася Захаду. А мы, трэба разумець, жывем бедна, але нікому не прадаліся. А бедна мы жывем, бо нас здрадзілі: трое ў Віскулях — палітычна, "дэмакраты" — эканамічна.

Я не зьбіраюся ў тысячны раз граміць гэтыя ідэі і даводзіць іх дурасьць. Лепш падумаць пра іншае. Яны матываваныя найлепшымі людзкімі пачуцьцямі: такімі, як вернасьць або непадкупнасьць. Тое, што скіраваны гэтыя пачуцьці ў памылковы бок, не касуе іх зыходнай маральнай дабраякаснасьці. Чалавек адчувае сябе ахвярай зла і апірышчам дабра. Ясна, што прапановы рушыць сьледам за той жа Польшчаю ў капіталістычны каўбасны рай ён успрыме як Мальчыш-Кібальчыш, якога буржуіны спакушаюць прысмакамі. Характэрна, што ППРБ у кожнай прамове падкрэсьлівае якраз гэты матыў: "Я свой народ не предам".

Але калі так, гэта пераварочвае ўсю апазыцыйную контрапрапагандысцкую ідэалёгію. Аказваецца, людзі ў нас якраз ахвяруюць каўбасой дзеля справядлівасьці. Адно што справядлівасьць тая фіктыўная. Але ж вера ня мусіць быць рацыянальнаю.

Як паводзіць сябе ў такой сытуацыі, хай скажуць людзі больш дасьведчаныя. Ясна адно: любоў (хай сабе і не туды скіраваную) нянавісьцю не пераможаш. Чалавек, які зьнелюбіў прэзыдэнта (і ўвасобленую ў ім ідэалёгію), будзе крычаць на дэманстрацыі "Луку на муку!". Але ў чалавека, які яшчэ верыць у тую ідэалёгію, такія крыкі выклічуць толькі агіду. І не таму, што ён дурны ці абалванены прапагандай, а таму, што любоў ад прыроды мацнейшая за нянавісьць. А на мітынгах больш крычаць "Далоў", чым "Жыве".

Паміж афіцыйнай і нацыяналістычнай ідэалёгіяй ёсьць адно характэрнае супадзеньне. І ў той, і ў другой важны складнік — крыўда. У афіцыйнай — на Віскулі і дэмакратаў. У нацыяналістычнай — на злыя сілы, якія вякамі душылі тут усё беларускае і дэмакратычнае.



IREX-PROMEDIA

Псыхалягічна такая крыўда — апраўданьне ўласнай бездапаможнасьці. У абодвух выпадках гэта бездапаможнасьць прыгнечанага перад прыгнятальнікам. Трывае яна таму, што няма спосабу ці жаданьня зьмяніць статус-кво, а выцясьняецца — толькі канструктыўнай дзейнасьцю, скіраванай на зьмену гэтага статус-кво. Ключавое слова тут — канструктыўнай. Імітацыя бурнай дзейнасьці толку не дае. Наадварот: чым больш тая імітацыя будзе бурнаю і перакана́ўчаю, тым большае будзе расчараваньне, калі чалавек зразумее яе ілюзорнасьць. Мы бачылі гэта ўжо ня раз: пасьля "Вёснаў" і "Восеняў", пасьля "альтэрнатыўных выбараў" і пасьля байкоту выбараў безальтэрнатыўных...

Тут на мяне накінецца куча нерасчараванага народу, сваім прыкладам даводзячы, што я памыляюся. Але я кажу не пра іх, а пра звычайнага чалавека, які спачувае апазыцыі, але ў яе дзейнасьць, акрамя хіба прысутнасьці на мітынгах, не заангажаваны. Пра палітычныя выйгранкі і прайгранкі, якія прыносіць апазыцыйнае змаганьне, ён мяркуе паводле ўласнага жыцьця, якое пасьля мітынгаў чамусьці ня лепшае. Шмат хто ходзіць цяпер на мітынгі не таму, што спадзяецца нешта зьмяніць, а каб засьведчыць самому сабе, што не сядзеў склаўшы рукі.)

Характэрны прыклад — сусьветная гісторыя першай паловы стагодзьдзя. У Нямеччыне і Італіі спробы ўзьняць народны энтузіязм і адрадзіць даўнейшы дух зьвяліся да тэатральнага патасу і агрэсіі, бо імі і матываваліся. А паднялася ў выніку Амэрыка, якой было не да прыгожых позаў — яна мусіла даць рады Вялікай Дэпрэсіі. Ня менш паказальны прыклад Савецкага Саюзу. Цяжкі і страшны час вайны быў парой вялікага духоўнага ўздыму. Пасьля Вялікага Тэрору зь яго абсурднай жорсткасьцю зьверху і бездапаможнасьцю ўнізе людзі адчулі, што робяць вялікае і справядлівае і што ад іх нешта залежыць. Духоўны ўздым родзіцца са справы, а не наадварот.

# Мой радавод

## беларускія дзеці пішуць гісторыю сваёй краіны

**"Радавод маёй сям'і — гэта дрэва, чые карані трымаюць мяне на роднай зямлі, даюць моц для жыцьця, а галіны, лісточкі на ім — гэта я, мае бацькі, родныя... Я бачыў сваіх прабабулю і прадзядулю толькі на фатаздымках, чуў расказы пра іх жыцьцё ад бацькоў, але й гэтага было дастаткова, каб зразумець: яны — гэта частка вялікай гісторыі роду, вёскі, краіны, сьвету. Яны — частка мяне".**

Гэтыя радкі зь дзіцячай працы як найлепш тлумачаць асноўную ідэю конкурсу "Мой радавод: Лёс сям'і ў XX ст.", які ладзіўся суполкай "Дыярыуш" цягам апошніх гадоў. У беларускай сытуацыі, калі нават трывалыя гістарычныя арыенціры фальшуюцца, вельмі важна, каб дзеці вывучалі г.зв. "блізкую гісторыю" — гісторыю дзядоў, бацькоў, сваякоў, гісторыю, якая жыве ў памяці блізкіх людзей, у старых сямейных фотаальбомах, дакумэнтах.

Упершыню конкурсы такога кшталту пачалі ладзіцца каля 30 гадоў таму ў Заходняй Нямеччыне, але сапраўдны фурор яны выклікалі ў краінах Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы — Польшчы, Украіне, Баўгарыі, Славеніі, Расеі. Там конкурсы ладзяцца незалежнымі грамадзкімі інстытуцыямі пад патранажам міністэрстваў асьветы або першых асобаў дзяржавы. У нас арганізаваны Архівам Найноўшае Гісторыі ў 1999 г. першы конкурс "Блізкая гісторыя. Паўсядзённае жыцьцё ў Беларусі: 1945–1965" быў абвешчаны Замяталіным антыдзяржаўным.

Удзел у конкурсе "Мой радавод: Лёс сям'і ў XX стагодзьдзі" маглі браць вучні сярэдніх школаў (ад 7 клясы), ліцэяў, каледжаў, гімназіяў, вучэльняў, тэхнікумаў. Задача конкурсу "Мой радавод: Лёс сям'і ў XX ст." была такая: удзельнік ня мусіў складаць падрабязнае генэалягічнае дрэва, але мусіў паказаць сваіх прашчураў у вірах гісторыі краіны. Тэрмін "блізкая гісторыя" сьведчыць пра суб'ектывізм: сакрамэнтальны міт пра Заходнюю Беларусь можа па-новаму загучаць з вуснаў роднай бабулі. Толькі такім чынам выкрышталізуецца нашая агульная гісторыя.



"Тое, што ў дзеда, маці і многіх нашых сваякоў захавалася шмат добрых фатаздымкаў, ускосна сьведчыць пра нябедных на грошы людзей. Глядзі: здымкі разьвітаньня зь нябожчыкам (гэта быў 19-гадовы брат матулі Сёмак). Разьвітаньне адбываецца пад абразамі ў вышываных ручніках, ля двух сумежных вокнаў. 5 дзяўчат. Хлапчук і жанчына ў гадах, не старэйшая за 40. Чыстая бялізна, жывыя кветкі, акуратна прычасаныя валасы. Ня вер нікому, калі пачуеш, што да 1939 г. заходнікі хадзілі ў лахманах, а жылі ў брудзе і смуродзе.

*На здымку прыкладна таго ж часу (1925–26) гурт дружак і братоў ля маладых. Гэта таксама нашая радня. Калі ты захочаш параўнаць той час і цяперашні, то яшчэ невядома, на чыю карысьць будуць высновы"* (Зьміцер Макаўчук. "Аднаўляю памяць роду па захаваных фатаздымках".)

Усяго на сёлетні конкурс прыйшло 390 працаў. У журы ўваходзілі гісторыкі, літаратары, культуролягі: Віталь Скалабан, Ігар Кузьняцоў, Вацлаў Арэшка, Алег Трусаў, Ларыса Андросік, Уладзімер Арлоў, Захар Шыбека, Лявон Баршчэўскі.

Па выніках працы былі вызначаныя пераможцы, якім уручылі дыплёмы, памятныя падарункі. "Рэгіянальная Беларусь" і Сямён Домаш адзначылі падарункамі працы навучэнцаў бабруйскай дзіцячай калёніі.

**Сяргей Сахараў**

### ДЫПЛЁМЫ ПЕРШАЙ СТУПЕНІ Й ПАМЯТНЫЯ ПАДАРУНКІ АТРЫМАЛІ:

1. **Антон Ермалёнак,** вучань СШ №3 г.Мёры, за працу "Гераічныя і трагічныя старонкі майго радаводу".
2. **Зьміцер Макаўчук,** вучань гімназіі №2 г.Пінску, за працу "Аднаўляю памяць роду па захаваных фатаздымках".
3. **Яўген Бельскі,** вучань Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа , г.Менск, за працу "Мой род: лініі, пункціры, зыгзагі лёсу".
4. **Аляксей Яцукевіч,** вучань СШ №91, г.Менск, за працу "Лёс сям'і ў XX ст. Аповеды старога альбому".
5. **Вэраніка Патоцкая,** навучэнка Музычнае вучэльні г.Баранавічы, за працу "Сям'я Саўчукоў у XX ст."

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Żydzi polscy. 1648—1772. Źródła. Oprac. A.Kaźmierczyk. Studia judaica Cracovensia. Series fontium 6. Kraków, 2001. 298 p. ISBN 83-7188-437-0**

(Польскія жыды 1648–1772. Крыніцы. Пад рэд. А.Казьмерчыка. Кракаў, 2001. Катэдра юдаістыкі Ягелёнскага ўнівэрсытэту. 298 стар.)

Зборнік падае ў арыгінале разнастайныя архіўныя крыніцы, што характарызуюць становішча габрэйскіх грамадаў ува ўладаньнях Рэчы Паспалітай. Складальнік Адам Казьмерчык у сваёй прадмове адрасаваў яго найперш студэнтам. У выданьні зьмешчаныя поўныя тэксты дакумэнтаў з 20 архіваў 8 гарадоў (Варшавы, Кракава, Любліна, Тарнова, Менску і інш.).

Храналягічна зборнік ахоплівае пэрыяд з 1648 да 1772 г. – час заняпаду Рэчы Паспалітай. Гэта досыць умоўнае вызначэньне, бо яно скіраванае на вонкавыя арыенціры, тады як у зборніку гаворка ідзе аб дынаміцы габрэйскага жыцьця са сваімі ўнутранымі законамі і трывалымі традыцыямі сацыяльнай аўтаноміі.

У кнізе сабраны 141 дакумэнт, зь іх 8 тычацца ВКЛ (у прыватнасьці, радзівілаўскіх латыфундыяў, магістратаў Вільні, Віцебску, Берасьця, Нясьвіжу, Слуцку, Смалянаў, ня кажучы ўжо пра выпадковыя згадкі іншых местаў і мястэчкаў). Складальнік кіруецца прынцыпам, што для ўсіх габрэяў Рэчы Паспалітай дзейнічалі адны й тыя законы, таму й не шукае нейкай рэгіянальнай спэцыфікі што да "літоўскіх" габрэяў. Аднак аўтар абмінае ўвагай расейскамоўныя публікацыі Ю.Гэсэна, С.Дубнова і афіцыёз кшталту Архіву Паўднёва-Заходняй Расеі або актавых збораў Віленскай археаграфічнай камісіі. Зрэшты, вызначаць рэгіянальныя адметнасьці – справа аналітычнага твору, а не дакумэнтальнага збору.

**Яўген Анішчанка**

**Беларускі нацыяналізм**: Даведнік / Укл. П.Казак. – Менск: Голас Краю, 2001.

*У даведніку сабраныя зьвесткі пра больш як 200 постацяў нацыяналістычнага руху ад сярэдзіны XIX ст.*

**Arche-Пачатак**: Скарына. № 3, 2001. – Менск, 2001. – 104 с.: іл. – Наклад 1000 ас.

*Найцікавейшыя матэрыялы нумару: Г.Сагановіч "Вайна зь беларускай гісторыяй", а. А.Надсан "Скарына і ананасы", В.Булгакаў "Эканамічны нацыяналізм супраць культурнае экспансіі".*

І.Лазько. **Перад патопам:** Эўрапейская палітыка Польшчы ў 1932–1939 г. – Менск: БДУ, 2000. – 354 с. – Наклад 400 ас. ISBN 985-445-404-5

*Разглядаюцца дачыненьні Польшчы зь Нямеччынаю й СССР, намаганьні Польшчы стварыць блёк дзяржаваў між Балтыйскім і Чорным морамі.*

А.Лойка. **Старабеларуская літаратура**: Падручнік. – Менск: Вышэйшая школа, 2001. – 319 с. – Наклад 4000 ас. ISBN 985-06-0604-5

*Аналізуецца старабеларуская літаратура да Люблінскае уніі 1569 г.*

**Беларуская энцыклапэдыя**: У 18 т. Т.12: Палікрат–Прамэтэй. – Менск: Беларуская энцыклапэдыя, 2001. – 560 с.: іл. – Наклад 10000 ас. ISBN 985-11-0198-2 (т. 12) ISBN 985-11-0095-8

*Пры канцы тому зьмешчаны сьпіс заўважаных недакладнасьцяў і памылак друку ў I–X тамах. Каштуе 4,3 т.р., у выдавецтве таньней.*

**Гомельшчына**: Назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданьняў / Склад., запіс, апрац. А.Ненадаўца. – Менск: Беларусь, 2001. – 415 с.: іл. – (Мой родны кут). – Наклад 2000 ас. ISBN 985-01-0108-3

*У кнізе зьмешчаныя легенды пра паходжаньне 131 населенага пункту.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

# КАХАНЬНЕ ЛЕВІ ШТРАЎСА

эсэ

Вінцэсь Мудроў

**Маладосьць мая прыпала на безнадзейна п'яныя й дарэшты бязглуздыя семдзясятыя гады. Памяць часьцяком вяртае ў той час, і мне мрояцца падпітыя твары сяброў, мрояцца працоўныя рапарты і брэжнеўскія прамовы, а ў душы ажываюць былыя лятункі і мары, сярод якіх галоўным было — купіць "Левісы", фірмовыя джынсы, якія каштавалі шалёныя грошы.**

Такім чынам, гэты аповед прысьвечаны джынсам — дзіўнаму вынаходніцтву Леві Штраўса — авантурыста й летуценьніка, чыё імя сталася назвай знакамітай фірмы і, адбітае на скуранай этыкетцы, ужо не адно дзесяцігодзьдзе ўпрыгожвае дзявочыя дупцы ды красуе на тыльных баках хлапечых торсаў.

Леві Штраўсу было чатырнаццаць гадоў, калі ён — да поўнага ачмурэньня — закахаўся ў Генрыету. Ён быў габраем, зь беднай сям'і; яна – багатай немкай, а таму бацькі — з абодвух бакоў — забаранілі маладым сустракацца.

Неўзабаве Леві паведаміў бацьку: "Еду ў Амэрыку". — "І што ж ты там будзеш рабіць?"— запытаўся стары Штраўс. — "Зараблю шмат грошай, вярнуся і ажанюся з Генрыетай", — адказаў сын.

З хлопца, вядома ж, пасьмяяліся, бацькі і знаёмцы адгаворвалі Леві ад вандроўкі. Але юнак быў настроены рашуча, дый ехаў ён не на пустое месца: у Амэрыцы на той час атабарыліся ягоны дзядзька і старэйшы брат.

Дарога ад роднага Бутэнгайму да Нью-Ёрку няблізкая. Выбіраўся ён за акіян з прыгодамі, поўны рамантычнага імпэту, але першыя ж дні заакіянскага побыту выпетрылі з душы ілюзіі. Ня дзіва – працаваць даводзілася на дзядзькавай фэрме, а сахор ды гной – рэчы вельмі далёкія ад рамантыкі. Неўзабаве юнак разьвітаўся зь дзядзькам і падаўся ў Нью-Ёрк, да брата, які гандляваў мануфактурай.

Цэлымі днямі Леві круціўся пры краме, дапамагаючы брату, па вечарох пісаў лісты сваёй каханай, у якіх паведамляў, якія вялікія грошы ён тут зарабляе (ня маючы пры гэтым ні цэнта ў кішэні), і аднойчы, наслухаўшыся аповедаў пра каліфарнійскае золата, гукнуў брату: "Выпраўляюся на Захад!" Брат уздыхнуў, пахітаў галавой, але ад паездкі не адгаворваў і нават даў на дарогу сякога-такога тавару.

Той парой на Дзікі Захад — а на календары быў 1853 год — ехалі ня толькі шукальнікі прыгодаў, але й рознага кшталту прайдзісьветы ды крымінальнікі. А таму атрымаць кулю ў лоб можна было ў любым прыдарожным салуне. Леві пашанцавала: яго не забілі, аднак па дарозе абрабавалі. Злодзеі забралі ўсё, апрача некалькіх скруткаў палатна. Палатно прызначалася для ветразяў, і ў каліфарнійскай пустэльні такі тавар нікому ня быў патрэбны.

Урэшце небарака прыбіўся да золаташукальнай сябрыны і прапанаваў ёй свой тавар, паведаміўшы, што палатно не прапускае вільгаці. Сёй-той набыў тканіну, змайстраваў намёты, ды тут надарылася неверагоднае: пайшоў рэдкі ў тых мясьцінах дождж, і змоклыя каліфарнійцы, прыхапіўшы кольты, кінуліся шукаць гандляра. Але гандляр яшчэ напярэдадні залевы задаў цубака і, шыбуючы па дарозе, прапаноўваў свой экзатычны тавар кожнаму стрэчнаму. "Што ты нам гэтую халеру прапаноўваеш? Ты лепей нагавіцаў прывязі", — параіў яму малады мэксыканец, і Леві пасьля такіх слоў задуменна пачухаў патыліцу. Золатаздабывальнікам падчас працы даводзілася поўзаць на каленях, і любыя, нават самыя трывалыя, нагавіцы ўмомант разлазіліся. Вось няўдалы гандляр і падумаў: а ці ня сшыць штаны з парусіны?

Не марнуючы часу, Леві паехаў у бліжэйшае мястэчка, знайшоў краўца і азнаёміў таго са сваёй ідэяй. "Ты што, хлопча, звар'яцеў? Хто гэта шые штаны з такой тканіны?" — рагатнуў кравец, але, калі Леві выклаў на стол усе тыя даляры, што меў у кішэнях, уздыхнуў і паабяцаў сшыць, дзеля сьмеху, колькі штаноў з калянай палатніны.

І вось нагавіцы былі сшытыя і вынесеныя на продаж. Мясцовы люд з такога тавару шчыра пасьмяяўся, але адзін золатаздабывальнік набыў сабе "ветразёўцы" і зазнаў працьму кпінаў: "Гэй, Джоні, пастаў свае штаны да сьцяны і заходзь у салун!". Праз колькі месяцаў Джонавы сябрукі ўбачылі, што "ветразёўцам" няма зносу і пачалі пытацца адно аднаго: дзе той хлопец, што гандлюе "жалезнымі" штанамі?

Неўзабаве Леві Штраўс адчыніў у Сан-Францыска кравецкую майстэрню, а сабраўшы ладна грошай, вярнуўся ў Нямеччыну, каб пабрацца шлюбам з каханай дзяўчынай. Аднак на радзіме яго чакала неспадзеўка: Генрыета ўжо была замужам, дый дзіця мела. Як потым высьветлілася, маці Генрыеты перахоплівала ўсе лісты, якія юнак



дасылаў сваёй каханай, і дзяўчына падумала, што хлопец на яе забыўся.

Леві Штраўс вярнуўся ў Штаты і кінуўся ў вір працы. Ягоная фірма *Levi Strauss & Company* стала выпускаць нагавіцы блакітнага колеру. У XX стагодзьдзі з-за дэмакратызацыі моды з адзеньня




золаташукальнікаў і каўбоеў джынсы ператварыліся ў апратку мільёнаў і "захапілі" спачатку амэрыканскі кантынэнт, а потым і матухну-Эўропу.

Ну, а вынаходнік джынсаў так і застаўся кавалерам, і памёр на самым пачатку мінулага стагодзьдзя ў 73 гады. Спадкаемцы знайшлі ў ягоным стале пажоўклыя лісты, якія пісала яму Генрыета, ды ссохлую ружу, якую дзяўчына падаравала маладому Леві, калі той выпраўляўся ў Амэрыку.

Аповед стаўся б няпоўным, калі б мы не згадалі пра лёс джынсаў у "краіне развітога сацыялізму". А лёс той быў незайздросны, бо камуністычныя ідэолягі бачылі ў іх праяву апалітычнасьці і нізкапаклонства перад Захадам. У тых жа савецкіх фільмах канца 60-х — пачатку 70-х усе мярзотнікі насілі джынсы; у нашым маладым Наваполацку ў джынсах нельга было хадзіць у школу і нават на скокі: ля ўваходу на танцпляцоўку "джынсавікоў" хапала міліцыя. Сёньня таму цяжка даць веры, але гэта было, і гэтага ня выкінуць з гісторыі.

Джынсы за брэжнеўскім часам былі ня проста моднай апранахай, але пэўным знакам, сьведчаньнем прыналежнасьці іхных "носьбітаў" да адметнай касты. Каштавалі яны вялікіх грошай, дый набыць іх, нават пры наяўнасьці патрэбнай сумы, было няпроста. Праўда, калі на пачатку семдзясятых за "Левісамі" езьдзілі ў Вільню (каштавалі яны там 80—90 рублёў), дык у сярэдзіне дзесяцігодзьдзя ўжо наш горад стаўся "пастаўшчыком" фірмовага тавару. У Наваполацку на той час атабарыліся будаўнікі польскай фірмы "Энэргаполь": палякі будавалі нафтаправод Полацак—Мажэйкяй і адначасова рабілі бізнэс на продажы джынсаў, дзеручы з пакупнікоў па 200—220 рублёў за штуку.

Ну, і, зразумела, ніхто ў семдзясятых не насьмельваўся вывешваць джынсы на прасушку ў двары ці ў якім іншым людным месцы. Калі б такое надарылася, іх бы абавязкова скралі. І тут самы раз згадаць выпадак, пра які распавёў мне кіраўнік наваполацкай адраджэнскай суполкі "Ўсяслаў Чарадзей" Васіль Храмцоў і які ўяўляецца яскравым фрагмэнтам "джынсавай эпапэі".

Аднойчы, за часоў бурнай маладосьці, Васіль вяртаўся дахаты а пятай гадзіне раніцы і нечакана ўгледзеў на даху аднаго з дамоў свайго сябра, які трымаў у руцэ сьпінінг. Рыбалка на даху — гэта ўражвала. Васіль, схаваўшыся за дрэвам, стаў цікаваць — якую рыбу будзе лавіць сябрук. А той зірнуў долу, стаў накручваць сьпінінг і неўзабаве падчапіў на гачак джынсы, што сохлі на бальконе верхняга паверху.

"Рыбалка" такая падпадала пад артыкул Крымінальнага Кодэксу, і ўсё ж такі гэта быў не банальны крадзеж, а нешта іншае. Бо калі б на гаўбцы вісела норкавае футра, ці нават царскія шаты, сябрук на іх наўрад ці пакваліўся б. "Рыбацкае шчасьце" ён зьведваў толькі тады, калі на гачак патраплялі зацяганыя і падзертыя джынсы — сымбаль далёкіх і незабыўных семдзясятых.

# Сучасьнікі

Адам Глёбус

### 1963. ТАРАС І КАТЛЕТА

Гуляю зь Віталькам Тарасам (цяпер супрацоўнік Беларускае службы Радыё Свабода) у двары, каля гурбы вугалю. Выходзіць мая маці з талеркачкай, на якой ляжыць гарачая, толькі з панівы, катлета з лустай хлеба. "Валодзя, хадзі зьеж катлету". "Не хачу-у-у". Тоўсты Віталька падбягае да сваёй маці й кажа: "У Адамчыка мама добрая, на вуліцу катлету выносіць, а ты мне й дома катлетаў не даеш".

### 1991. ЯКУБОВІЧ І ГНОЙ

"У беларусаў увесь гумар зводзіцца да гісторый пра гаўно", — кажа фэльетаніст Павал Якубовіч і тут жа ж распавядае гісторыю, як яму па вялікім блаце дастаюць квіткі ў цырк на першы рад, як прыходзіць ён з сынам Лёшам, як выбягаюць тыгры, як найбольшая зьвяруга падбягае да іх і накладае вялізную кучу. Дрэсіроўшчык адно прысыпае гной пілавіннем, і даводзіцца дыхаць тыгрыным водарам да антракту. А потым Якубовічы вяртаюцца дахаты і маці пытаецца, што ты, Лёшачка, бачыў у цырку. Ясна: бачыў, як тыгр пакакаў.

### 1995. ГАНЧАРОВА, МАРКАВА Й ЧОРНЫЯ ВАСЬМЁРКІ

Маладзенькая манэкеньніца Кася Ганчарова злоўжывае алькаголем. Зранку сустракаю яе ў бары з кумпаніяй разьняволеных дзецюкоў. Яны п'юць каньяк, я — каву. "Толькі не кажыце маёй маме," — просіць Кася. Я й не кажу. А праз тыдзень даведваюся, што Кася, пасварыўшыся зь дзецюкамі, кідаецца ў вакно й ламае шыю. Касі сыходзіць 8 сакавіка. І ў гэты ж жаночы дзень наш сьвет пакідае геніяльная паэтка й перакладчыца Вера Маркава. Касі — 18, Маркавай — 88. Дзень чорных васьмёрак.



### 2001. АЛЕНА Й ЛАСТАЎКІ

Прыбіральшчыкі ў гатэлі *Le Meridien* спорваюць гнёзды ластавак. Алена бяжыць у дырэкцыю й сварыцца, маўляў, у ластаўках, у іх прысутнасьці ўся адметнасьць гэтага месца. Дырэктар дае слова, што прыбіральшчыкі больш ня будуць нішчыць птушыных гнёздаў. Праз год ластаўкі вяртаюцца й лепяць свае хаткі на тых самых месцах, дзе будаваліся раней. Алена ганарыцца перамогаю, выходзіць на гаўбец і размаўляе з пташкамі, я зь сябрамі, а тыя лётаюць вакол яе, нібыта выказваючы ўдзячнасьць.

### 2001. КУПАЛА Й ЧАРАВІК

Самым драматычным забойствам-самазабойствам для беларусаў у XX ст. застаецца сьмерць Янкі Купалы ў маскоўскім гатэлі. Купала ляціць у лесьвічны пралёт. Сьведкі кажуць, што побач зь целам ляжыць акуратна зашнураваны чаравік. Чаравік саскоквае з нагі ў час сьмерці генія. Менавіта гэтая дэталь мяне ўражвае, жахае й зноў і зноў вяртае ў атмасфэру трагедыі.

### 2001. ФЯДУТА Й ГОНАР

Грамафоністы журналюга Фядута — ружавашчокі цэнтнэр жывой вагі — ганарыцца, што за СССР выслужваўся ў камсамоле. Мала таго, заклікае ганарыцца і ўсіх астатніх сяброў па камуністычнай партыі, кшталту рэктара Казуліна. Ведаю, захаваліся рэлікты, якія ганарацца службаю ў СС і гестапа. Прайгралі вайну, а ганарацца. І ганарыўся б сабе ціхенька той Шурык Фядута. Дык не, вылазіць на старонкі часопісаў і газэтаў, што выдаюцца за грантаўскія даляры, і піша пра свой камсамольскі гонар. Некарэктна.

### 2001. КІСЬЛІЦЫНА Й ШЭКСЬПІР

Ганна Кісьліцына, Адамовічава сваячка, параўноўвае сем'і Адамчыкаў і Адамовічаў у беларускай літаратуры зь сем'ямі Мантэкі і Капулеці з шэкспіраўскай драмы. Добра, што я з Ганнаю даўно пражыў век Рамэа і Джульеты, але нашыя дзеці й пляменьнікі падрастаюць.

## Навіны за тыдзень

### Вежа разбураецца

**Студыя *Eternal Art* выпусьціла апошні альбом гомельскага ангельскамоўнага рок-гурту *Gods Tower*, які нядаўна вырашыў самараспусьціцца.** Зрэшты, чуткі пра хуткі развал гэтай культавай мэтал-каманды ходзяць ледзьве ня з часу ейнага заснаваньня, аднак гэтым разам інфармацыя пацьвярджаецца рэальным сыходам клявішніка й басіста. Прычынаю роспуску сталася хвароба лідэра гурту, аўтара ягонай музыкі Аляксандра Ўракава, які летась нават спрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам. Апошні кампакт-дыск *Gods Tower* мае назоў *Abandon All Hope*, што ў перакладзе пазначае "Пакінь усялякую надзею".

### Анталёгія ў "Саламеі"

**Гарадзенскі часопіс для жанчынаў "Саламея" пачаў друкаваць на сваіх старонках анталёгію беларускай жаночай паэзіі.** Склаў яе мужчына — паэт і мовазнаўца, аўтар "НН" Юрась Пацюпа. У першым выпуску анталёгіі зьмешчаныя творы паэтак XIX ст. і нашаніўскае пары, у тым ліку Канстанцыі Буйлы, Ванды Лявіцкай, Зоські Верас і Купалавай жонкі Ўладзіславы Станкевічанкі.

Б.Т.

# Бязьлітасная расправа з дыктатурай

*фэльетон*

Даўно хадзілі чуткі, што апазыцыя рыхтуе да выбараў нейкі хітры і каведны плян, сапраўдны ўдар пад дых дыктатуры. Дык вось, цяпер мне як найбольш дасьведчанаму пасьлядоўнаму сябру аб'яднанай і самараднай апазыцыі загадана запусьціць яго ў дзеяньне.

Перамога на выбарах — не салодкія мроі, дзеля гэтага трэба ўсім самаахвярна і нястомна праводзіць кампанію ў падтрымку — не пужайцеся — Аляксандра Лукашэнкі.

Бо вы толькі ўявіце, якая пачнецца барацьба адразу з двух флянгаў усяго за аднаго нармалёвага кандыдата... Вядома, такога ў гісторыі палітычных рухаў не было, але пра выключныя шляхі Беларусі гаворка пойдзе іншым разам.

Нам трэба быць моцнымі і непахіснымі. Нашы рукі будуць выкручваць, а галаву біць аб асфальт, нас будуць цягаць па кэпэзам і звальняць з працы... Няшмат застанецца ў шэрагу, але мы павінны ўпарта паўтараць: "Лукашэнка — наш прэзыдэнт".

Вядома, што пачуем у адказ:

— Заткніцеся! Вас ніхто ня просіць галасаваць за Лукашэнку.

— Вы, ілжывыя псы, галасуйце за сваіх прадажных кандыдатаў!

— (*У мэгафон*) Мітынг у падтрымку Лукашэнкі дазволены толькі праз тыдзень, сёньня ўсім разысьціся...

— А вам выстаўляць на від партрэт таварыша Лукашэнкі забаронена!

— Нязнаная па сваім цынізьме і подласьці агітацыя.

— Ня верце ім, яны гавораць не ад шчырага сэрца, гэта ж проста сьмешна. Толькі паглядзіце, хіба з такім тварам можна галасаваць за Лукашэнку?! — і тут Замяталін вырве сэрца з грудзей і павядзе народ да сапраўднага выйсьця (г.зн. *"Final Exit"*).

Але галоўнае — не зьвяртаць на ўсё тое ўвагі і далей агітаваць за Лукашэнку, тым больш, што рабіць гэта мы здолеем лепей, чым улада.

Электарат мала што разшаволіць, ён доўга ня будзе даваць веры:

"Не, ня можа быць, такія людзі не пакупаюцца і не прадаюцца... Ніколі!"

Але ж у канцы ім трэ будзе вырашаць, за якога Лукашэнку галасаваць, за роднага або за нейкага там варожага, і як іх зараз рассартаваць. Такім чынам, сьветлы вобраз падвоіцца ў грамадзкай сьвядомасьці (выбачайце за ўжываньне гэтага тэрміну, маю на ўвазе "грамадзкай").

Падчас выбараў апазыцыі варта перастаць быць апазыцыяй, а толькі пазыцыяй "За". Нам няма чаго дзяліць з электаратам, можа тады нейкі "левы" кандыдат і пралезе ў прэзыдэнты. Электарат(у) ўжо нікому(га) не шкада... Дайце яму толькі як сьлед адсьвяткаваць сваю перамогу.

**Дадатковы матэрыял для электаральнага карыстаньня (або аргумэнты на кожны выпадак):**

"Гісторыя памылак ня робіць, тым больш два разы запар..."

"Або Пазьняк, або зноў выбірайце каго хочаце..."

"Выбяры сабе эмблему: 1, 2 або 3?

— Тры буслы, тры чмялі, тры бутылі".

"Сябра выбарчай камісіі! Атрымай нейкае задавальненьне ад сваёй працы!"

"Сьцяна — нявінная ахвяра і самая ўпартая ўдзельніца выбараў. Той, хто псуе сьцяну — той... (замест прабелу ўстаў патрэбнае слова са сваёй сьцяны)".

"Выбары існуюць, каб рабіць нязносным нашае жыцьцё!"

"Ніколі не пытай суседа, за каго ён будзе галасаваць".

**Сяржук Блізна,**
**пас.Лясны пад Менскам**



ВЫКАРЫСТАНЫ ЗДЫМАК АНАТОЛЯ КЛЕШЧУКА



## Сабачыя гісторыі

Адзін сабака трапіў на той сьвет. Ідзе па тым сьвеце, любуецца Гражданамі. А самы кучаравы Граждан і пытаецца: "А вы тут как, по художественной части орудуете или по пионерской путёвке?"

Адзін сабака трапіў у пекла. А там чэрці смалу ў тазіках вараць, а сярод іх ходзіць Граждан і крычыць: "Даеш пяцігодку за тры гады!.."

Адзін сабака трапіў на банкет. Хацеў выпіць і закусіць, а лысы Граждан яму і кажа: "Піва адпускаецца толькі членам прафсаюзу і нежанатым кавалерам ордэна Чырвонай зоркі..."

Адзін сабака трапіў пад серп і молат. Ляжыць, паміраe і ніхто не ратуе. Праз тыдзень падышоў Граждан і пытаецца: "Можа, вам галаву пілой адрэзаць, каб ня так мучыліся?.."

Адзін сабака трапіў пад трамвай. Трамвай сышоў з рэек і перакуліўся. Праз разьбітае акно на асфальт вываліўся Граждан і, убачыўшы сабаку, закрычаў: "Цяпер я не змагу жаніцца, як нармальны чалавек. Усе будуць казаць, што на трамваях езьдзіць ня ўмею..."

Адзін сабака трапіў у каналізацыю. Хацеў вылезьці на белы сьвет, ды раптам чуе голас Граждана: "Жыць застанешся. Жыцьцё даражэй!.."

**Віктар Шніп**







Езус Хрыстус стварaў для жыдоў рэлігію, якую яны не прынялі, і таму яна стала сусьветнай. Адам Міцкевіч стварaў для ліцьвінаў літаратуру, да якой яны не дарасьлі, і таму яна стала сусьветнай.

**З Архіву Супольнасьці Літвы.**

## Прыватныя абвесткі

### вокны, дзьверы

**Філёнчатыя дзьверы**, драўляныя вокны са шклопакетам. Вырабляем, ставім, гарантуем якасьць. Т.: 247-98-31

### вітаньні

**Айца Аляксандра Надсана** віншую з Днём нараджэньня. Чакаю наступных выкрывальных артыкулаў! Сяргей Архімандрыт

**Генусь, Віт і Мішон!** Жадаю пасьпяхова праваліць уступныя іспыты! Алесь В.

**Танечку Сурмянкову** віншуем з Днём нараджэньня! Ніколі ня знайся з болем і палюбі цёплы сырадой!

**Вітаю ўсіх, хто** наступіў і наступае! Алесь Вольны

**Людзі! Узрадуйцеся:** 23 ліпеня Алесі Дудзінскай споўніўся 21 год! Натоўп сяброў

**Алеська!** Віншую з Днём народзінаў, і прабач, што я цябе тады ўкусіў! Сабака Белка

**Алеся!** Віншую! І трэба больш глядзець мульцікаў! Твой Пікачу

**Даражэнькая Алесенька Дудзінская**! З Днём народзінаў цябе! Здароўя, посьпехаў, каханьня! Маці і бабуля

### ідэі

**"Мы не адны** ў Сусьвеце! І ўчора, і цяпер, і заўтра з намі Дух продкаў і сьвятло Багоў". А.Хатэнка, Kalis Pagan

**Адзіны кандыдат** на пост прэзыдэнта РБ – гэта Зянон Пазьняк. Адамкус

**Зьвязка!** Вячорка – разбурэньне Фронту – падстаўная псэўдабеларуская фігура Домаш – легітымізацыя рэжыму або іншая маскоўская крэатура – зьнішчэньне Беларусі

**Памяняю відэаплэер** на аднакасэтны магнітафон зь CD-прайгравальнікам у добрым стане. Т.: 502-53-19 (увечары, пасьля 1.09.2001)

**Змагайся за волю** Бацькаўшчыны! Арганізацыя "Край". Пэйджэр: (8-017)249-00-00, аб. 7315. E-mail: spa_kraj@hotmail.com. Паштовы адрас: 220037, Менск, а/с 49

### кантакты

**Сп.Андрэй Саган!** Згубіў Вашыя каардынаты – калі ласка, адгукніцеся, бо не змагу вярнуць тое, што вінен. Віталь Станішэўскі. 220107, а/с 150. Т.: 213-43-52

**Шукаю аднадумцаў** з паганскім сьветапоглядам. Хвала продкам! 225710, Пінск-1, а/с 31

**Усім, хто мяне ведае** – у гэтае лета я буду дома! Алесь Вольны

**Запрашаем наведаць** сайт беларускіх нацыяналістаў: www.spa-kraj.org

### кнігі, музыка

**Набуду літаратуру** пра сьветапогляд, міталёгію, культуру й побыт славянаў. 225710, Пінск-1, а/с 31

**Прадам CD "Вольныя танцы"**, "Новая альтэрнатыва", "М"№1. 225710, Пінск-1, а/с 31

**Замаўляйце і чытайце** "Голас Краю" — газэту беларускіх нацыяналістаў. Адрас рэдакцыі: 220037, Менск, а/с 49

### крамяні

**Крамяні для АКВ**. Дапамажы сабе САМ! Лекавыя якасьці ад маці-зямлі і ніякай хіміі!!! Ад Вас – капэрта са зв/а+купон б/а. 246008, Гомель-8, а/с 9

### падарунак

**Прыму ў падарунак** бел-чырвона-белы сьцяг любых памераў. 225710, Пінск-1, а/с 31

**Прыму ў падарунак** пэўную колькасьць беларускага самвыдату. Гарантую яго далейшае распаўсюджаньне. 225710, Пінск-1, а/с 31

**Прыму ў падарунак** "100 лукашыкаў". Буду распаўсюджваць беларускую сымболіку ды інш. 212022, Магілёў, вул.Касманаўтаў, 26-32. Сьвятлана

### кватэра

**Здымем аднапакаёўку ў Менску** для маладой сям'і. Магчымая перадаплата, парадак гарантуецца. 262-07-70

### памяшканьне

**Здыму памяшканьне** да 20м² з тэлефонам пад кніжны склад у Фрунзэнскім раёне Менску. Пэйдж. 211-85-85, аб.8294

### пральная машына

**Прадаю** пральную машыну-аўтамат нямецкай вытворчасьці. Крыху б/у, у добрым стане, гарантыя. Т.: 221-14-86

### праца

**Дапамагу ў вырабе** любых мэталаканструкцыяў. Выканаю даручэньні ў Гомлі. 246008, Гомель-8, а/с 9

**Дапамагу пачаць** сваю працу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 22089, Менск-89, а/с 122

НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

Імя і прозьвішча ______________________

Адрас, тэлефон ______________________


НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).





**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**





6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

Наклад 5125.

Нумар падпісаны ў друк 29.07.2001.

Замова № 4238.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а